PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 30 (2254) Год XLIV Беласток 25 ліпеня 1999 г. Цана 1,20 зл.

## Адкрываю карані

**З былым прэм'ер-міністрам Рэчы Паспалітай Владзімежам ЦІМАШЭВІЧАМ гутарыць Аляксандр Вярбіцкі.**

***— Спадар прэм'ер, напачатак хачу даведацца пра Вашы карані; прозвішча паказвае, што яны на Усходзе.***

— Я гэтыя карані ўвесь час адкрываю. Нарадзіўся я ў Варшаве і ведаю адкуль мае бацькі. Мая мама выводзіцца з Валыні, з ваколіц Луцка, а бацька з Гродзеншчыны. Праўда, нарадзіўся ён у Сімбірску ў 1917 бежанства. Пазней уся яго сям'я вярнулася ў родную старонку, а дакладна ў ваколіцы Росі, Ваўкавыска і самога Гродна. Некалькі гадоў таму дзякуючы артыкулу Адама Вайрака ў „Газеце выбарчай", які пакарыстаўся матэрыяламі адшуканымі працаўніцай Станцыі Польскай акадэміі навук у Белавежы, я даведаўся, што найбольш праўдападобна мае сямейныя карані намнога мацнейшыя і старэйшыя ды звязаныя з гэтай тэрыторыяй, таму што ў нейкіх дакументах трохсотгадовай даўнасці выступае некалькі асоб па прозвішчы Цімашэвіч, якія былі паселены ў пушчанскіх вёсках і адказвалі за ахову Белавежскай пушчы, каралеўскага лесу. Усё паказвае на тое, што мая сям'я здаўна выводзіцца адсюль.

Я Беласточчыну не ведаў дваццаць гадоў свайго жыцця і трапіў сюды ў 1970 годзе дзякуючы маёй жонцы. І нейкі несвядомы атавістычны сентымент да гэтай зямлі прычыніўся да таго, што некалькі гадоў пазней я перанёсся сюды і такім чынам стаў я беластачанінам.

***— У часе, калі Вы займалі найвышэйшыя пасты ва ўрадзе, у нас былі пабудаваны школы ў Гайнаўцы, Кляшчэлях і Орлі, здадзены ў карыстанне шпіталь у Гайнаўцы, створаны Універсітэт у Беластоку, пачаў працу рэгіянальны тэлецэнтр. Ці прыкладаў да гэтага руку спадар Цімашэвіч?***

— У пэўнай ступені. Я з самога пачатку маёй публічнай дзейнасці прыдаваў вялікае значэнне справам нацыянальных і рэлігійных меншасцей. Я лічыў, гэта маё меркаванне пра дэмакратычную дзяржаву, што трэба многіх вельмі канкрэтных доказаў шанавання правоў меншасцей, а не толькі адно пустых слоў. Калі я быў віцэ-прэм'ерам ва ўрадзе Вальдэмара Паўляка паявілася даволі нават нечаканая магчымасць павелічэння выдаткаў на школьніцтва нацыянальных меншасцей і ўдалося пераканаць тадышняга міністра адукацыі, віцэ-прэм'ера Аляксандра Лучака каб значную частку тых грошай прызначыць на завяршэнне некаторых інвестыцый у нашым ваяводстве.

Я асабіста вельмі ангажаваўся ў справу універсітэта ў Беластоку. У васьмідзесятыя гады я працаваў у тадышняй Філіі Варшаўскага універсітэта. Я ўжо тады сустракаўся з такімі амбіцыямі, каб была гэта самастойная вышэйшая навуковая установа і тады я быў пераканаваны, што тыя планы былі заўчасныя, што стан, лік і кваліфікацыі навуковых кадраў не давалі падстаў стварыць самастойную вучэльню. А ў апошнія гады я не меў напросту сумненняў, што гэтыя ўмовы ўжо задаволены. Я быў тады нават крыху здзіўлены, што

[працяг ☞ 4]




# Басовішча X

Аляксандр МАКСІМЮК

16-17 ліпеня г.г. у Гарадку адгучаў дзесяты Фестываль музыкі Маладой Беларусі „Басовішча". І хаця парадкавы нумар імпрэзы значыў круглы юбілей Фестывалю, дарма было чакаць на ім надутых прамоў, кветак, віншавальных лістоў. Нешта юбілейнага аднак адчувалася...

Ці можна дзесяць гадоў Фестывалю „Басовішча" змясціць у пяці сказах? Вядома, нельга. Аднак задачу такую паставіў сабе аўтар гэтых радкоў, калі старшыня Беларускага аб'яднання студэнтаў Юры Шульскі звярнуўся да яго з просьбай адчыніць мерапрыемства. На „Басовішча" ніхто не едзе слухаць узнёслых слоў ані глядзець жэсты палітыкаў, якія ведаем з тэлеэкрана. Калі што такое і адбываецца, дык у глыбокім закуліссі.

Што варта сказаць пра „Басовішча"? Арганізатарам яго ад пачатку з'яўляецца Беларускае аб'яднанне студэнтаў у Польшчы. Фестываль гэты — некамерцыйная імпрэза, дафінансоўваецца яна Міністэрствам культуры і мастацтва, гарадоцкім самаўрадам ды шэрагам прыватных спонсараў. Што характэрнае для нашага тут жыцця наогул — „Басовішча", як прынцып, не падтрымліваецца ваяводскімі ўладамі, хаця з'яўляецца яно адзіным вялікім і міжнародным рок-мерапрыемствам на абшары сучаснага Падляшскага ваяводства і можа служыць у якасці неблагой яго візіткі. За дзесяць гадоў існавання адносіны ваяводства да „Басовішча" не пахіснуліся. У гэты час, аднак жа, адбылася падзея нашмат важнейшая за „непахіснасць" ваяводства. Фестываль канчаткова здабыў прыхільнасць мясцовых мас-медыяў, у якіх знаходзіць цяпер і матэрыяльнага спонсара, і мерытарычнага абаронцу. Нечага такога ў пачатках Фестывалю не наглядалася. 9-8-7 гадоў таму арганізатары мусілі самі рупіцца пра г.зв. інфармацыйны шум вакол „Басовішча". У момант юбілею становішча цалкам вывярнулася — гэта мас-медыі знаходзяць у „Басовішчы" знакамітае месца для ўласнай прамоцыі ў рэгіёне. Вельмі важны гэта здабытак і... перамога. Жывем жа ў свеце, у якім, калі чаго не было ў СМІ, таго ўвогуле не было.

Музычны змест Фестывалю з'яўляецца адбіткам схільнасці ды ўпадабанняў сучаснай моладзі. Пераважае жорсткая і вельмі жорсткая музыка — нават, калі г.зв. сюжэт датычыць лірычнага. У сёлетнім конкурсе былі ўзнагароджаны чатыры гурты: **Зніч** (узнагарода публікі і БАС), **Deviation** (узнагарода Беларускага саюза ў Польшчы), **Exist** (узнагарода войта Гміны Гарадок) і **Алесюкі** (дадатковая ўзнагарода БАС). Другі дзень, адведзены канцэртам зорак, быў больш разнастайны і, можна сказаць, менш жорсткі. У чарговы раз публіку ўразіў сваім замілаваннем да старажытнасці ды незвычайным наборам інструментаў гурт „Палац". Пад яго гукі калыхаліся нават негры, якіх можна было заўважыць у Барыку. „Крама" і яе саліст Ігар Варашкевіч — ці не найвылікшы дыназаўр беларускага рока — прадставілі, як і ў мінулых гадах, сярэднюю (галоўную) плынь рок-н-рола. А калі салістка „Новага Неба" Кася Камоцкая сола праспявала „Спробу малітвы" А. Глёбуса (была гэта сапраўдная жамчужына першага „Басовішча"), дык пачуццёва звязаныя з Фестывалем асобы маглі і слязінку выпусціць. Адноўлены „Уліс" (трыо: дзве гітары і ўдарныя; у гісторыі рока ёсць некалькі вы-

[працяг ☞ 3]

## Шляхам Яносіка

Варта грамадзянам Польшчы ехаць у Славакію адпачываць. Праезд мяжы з гэтай краінай зусім беспраблемны. Жыхары прыгранічных мясцовасцей з Польшчы ходзяць раніцай на славацкі бок за пакупкамі. Цалкам легальна можна сто метраў ад дзяржаўнай мяжы купіць скрынку піва і веласіпедам вярнуцца дахаты. Па абодвух баках мяжы можна таксама памяняць залатоўкі на кароны і наадварот.

[*уражанні ад замежнай пабыўкі* ☞ 5]

## Змены ў Гайнаўскім белліцэі

Уступныя экзамены ў белліцэй былі прымеркаваны да пераўтварэння яго ў Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Конкурсная камісія выбрала на пасаду дырэктара Комплекса цяперашняга дырэктара белліцэя Яўгена Сачко. У школе павялічыцца колькасць аддзелаў з 18 да 21. Апрача 154 вучняў прынятых у ліцэй, 66 паступіць у гімназію.

[*белліцэй пасля рэформы* ☞ 8]

## Будаўнічыя працы ў Музеі

Зараз ува ўсіх выставачных залах паложаны грэс, зроблена цэнтральнае ацяпленне, уся электраўстаноўка падрыхтавана да мантажу лямпаў і ўсюды паложаны тынкі. Трэба таксама класці на лесвіцах мармур і граніт.

[*весткі з Музея* ☞ 8]

## Жэньшэнь ратуе нацыю

Ужо ў 1986 годзе ў нас была заснавана буйнейшая ў Еўропе плантацыя жэньшэню. Некалькі гадоў запар мы атрымоўвалі па дзве з паловай тоны сухога кораня. Мне здаецца, што ні наша насельніцтва, ні ўрад, ні ўрачы не ўяўляюць, што гэта такое, хаця ўжо даказана, што жэньшэнь выводзіць усе радыенукліды, у тым ліку і стронцый!

[*болей* ☞ 9]

## Тады на вёсцы была нэндза...

На радзіму вярнуліся мы ў 1918 годзе, але не ўсе. Цётка Таццяна выйшла там замуж за Антона Звістова. У Кашалі дабраліся мы пасля Пакровы. На вясковай вуліцы раслі дрэвы-самасейкі і высокая крапіва, праз якую праляглала сцежка. У вёсцы ацалела толькі некалькі хатаў, там дзе цяпер жывуць Майстровіч, Серафім і Гаворка. Мы сталі жыць у Корзуна на „Баярах".

[*усмамін* ☞ 10]

# Беларусь — беларусы

## Працэс пайшоў

**15 ліпеня прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка сустрэўся з кіраўніком рабочай групы Парламенцкай Асамблеі АБСЕ Адрыянам Севярынам. Вынікам размовы стала чарговая дэкларацыя Аляксандра Рыгоравіча аб тым, што ён гатовы да дыялогу з апазіцыяй.**

У ходзе сустрэчы прэзідэнт падзякаваў АБСЕ і асабіста Севярыну за канструктыўную работу, дзякуючы якой Захад змяніў адносіны да Беларусі. Лукашэнка далей гаварыў у тым духу, што калі, маўляў, Дзяржаўны дэпартамент ЗША і зробіць нейкую заяву адносна сітуацыі ў краіне, ён, Лукашэнка, аднясецца да гэтага спакойна і будзе лічыць, што зроблена яна „па інерцыі". Прэзідэнт прагаварыўся, што аб змене адносін Захаду да яго асобы ён даведаўся ад Міністэрства замежных спраў і разведкі. У ходзе спаткання вялася таксама гутарка аб механізме правядзення парламенцкіх выбараў у 2000 годзе, аб тым, што яны павінны быць свабоднымі. Апрача таго, прэзідэнт гаварыў з Адрыянам Севярынам аб свабодзе друку і лёсе палітзняволеных. Натуральна, закрануў і апазіцыю: „Апазіцыя рахтуецца справакаваць уладу на сілавыя дзеянні... Калі нас пачнуць правакаваць, мы адкажам самымі рашучымі мерамі ў рамках закона".

Асноўным вынікам размовы з Адрыянам Севярынам стала чарговае заяўленне кіраўніка выканаўчай улады аб тым, што ён гатовы да дыялогу з апазіцыяй. Варта адзначыць, што узаемаадносіны Аляксандра Лукашэнкі з тымі, каго прынята называць „дэмакратычнымі сіламі", дзеляцца на дзве асноўныя стадыі: галоснай нянавісці і адкрытага непрызнання. У перыяд, калі да заканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў далёка, кіраўнік дзяржавы дазваляе сабе падакараць „палітыканаў" з карысцю для сябе, абвінавачваць іх ва ўсіх бедах дзяржавы — ад інфляцыі да ізаляцыі. Але бываюць пэўныя перыяды, калі прэзідэнт, нечакана для сябе, трапляе ў залежнасць ад гэтых разбуральнікаў беларускай дзяржаўнасці. Нешта падобнае здарылася ў лістападзе 1996 года, калі Аляксандр Рыгоравіч амаль не атрымаў імпічмент пад рабро, нешта падобнае адбываецца і цяпер. Зрэшты, дэкларацыя прэзідэнта аб гатоўнасці да дыялогу з апазіцыяй нічога не вартая. Сама па сабе гэтая заява ўжо гучала з вуснаў кіраўніка дзяржавы тыдзень таму. І прысутнасць Адрыяна Севярына ў якасці сведкі дружалюбных пачынанняў прэзідэнта не значыць абсалютна нічога. Прэзідэнт ужо абяцаў АБСЕ дамовіцца з апазіцыяй. Было гэта ў 1997 годзе, год пасля прыняцця новай Канстытуцыі. Тадышні кіраўнік МЗС Іван Антановіч быў упаўнаважаны прадстаўляць інтарэсы ўлады на гэтай размове. І чым гэта закончылася?

За каментарыем з выпадку адбыўшайся сустрэчы мы звярнуліся да беларускіх палітыкаў і парламентарыяў:

__Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:__

— Лукашэнка дапусціў вялікую палітычную памылку, калі не паслаў у Бухарэст на сустрэчу з Адрыянам Севярынам сваіх прадстаўнікоў. І збываюцца прагнозы тых людзей, якія прадказвалі, што яшчэ да 20 ліпеня ён паспрабуе выправіць гэту памылку. Сам факт, што ён рашыўся сустрэцца з Адрыянам Севярынам, сведчыць, што памылку сваю Аляксандр Рыгоравіч прызнаў. Візіт Севярына абмяркоўваўся ў Санкт-Пецярбургу. І тады неаднакратна заяўлялася аб тым, што візіт можа адбыцца да 20 ліпеня. Пасля гэтай даты АБСЕ плануе зрабіць выразны перапынак у адносінах з афіцыйным Мінскам. Рэзалюцыя, прынятая ПА АБСЕ ў Пецярбургу, была даволі мяккай, і філасофія гэтага дакумента зводзілася да таго, што цераз перамовы нам неабходна прыйсці да свабодных дэмакратычных выбараў. Было вельмі важна, каб рэзалюцыя прайшла аднадушна, каб яе падтрымала расійская дэлегацыя. Мы збіраліся зрабіць расійскіх парламентарыяў фактарам уздзеяння на беларускі бок.

__Сяргей КАЛЯКІН:__

— Сустрэчу можна палічыць адбыўшайся толькі ў тым выпадку, калі будзе дасягнута дамоўленасць у тым, што ўлады Беларусі гатовы да дыялогу. АБСЕ сёння стаіць на выразных пазіцыях, што выхад са складўшайся сітуацыі можа быць дасягнуты толькі цераз сумленныя справядлівыя выбары, якія павінны адбыцца, па-першае, паводле правілаў, па-другое, пад кантролем грамадства, па-трэцяе, пры ўдзеле міжнародных назіральнікаў. Такім чынам, асноўным вынікам размовы Адрыяна Севярына з прэзідэнтам павінна стаць заява апошняга аб тым, што ён гатовы ўдзельнічаць у дыялогу. Натуральна, сам прэзідэнт не будзе непасрэдным удзельнікам размовы з апазіцыяй. Але без гэтай заявы Аляксандра Лукашэнкі весці дыялог з любым чыноўнікам, якога буйнога ўзроўню ён бы не быў — немэтазгодна. Усе рашэнні ў гэтай краіне прымаюцца адным чалавекам — прэзідэнтам. І я думаю, што дэкларатыўна прэзідэнт заявіў аб гэтым. Іншая справа, ці гэтыя дэкларацыі будуць выкананы на справе.

**Віктар Мартыновіч**
*Белорусская деловая газета*
*№ 612, 16.07.1999 г.*

## Лукашэнка напалохаў Расію

Першы тыдзень ліпеня Беларусь трэсла чарговая інтэгратарская ліхаманка. Даволі нечакана, 2 ліпеня адбылася сесія парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, а 7 ліпеня ў Маскве пасяджэнне выканкама Саюза.

Як вядома, дэпутаты парламенцкага сходу павінны былі сабрацца яшчэ 10 мая ў Гродне. Горад быў цалкам падрыхтаваны да гэтага. Але без якіх-небудзь тлумачэнняў сход, на якім разглядаўся праект саюзнай дамовы, адбыўся ў Мінску. Магчыма, што не апошнюю ролю ў такім рашэнні ўладаў абедзвюх краін згуляла актывізацыя антыінтэграцыйнай дзейнасці гродзенскай апазіцыі. Прыхільнікам аднаўлення Расійскай імперыі наўрад ці хацелася, каб іх пасяджэнне суправаджалася сутычкамі дэманстрантаў з міліцыяй.

У маі сесію адклалі і амаль на два месяцы ў справе аб'яднання Расіі наступіла зацішша. Але Аляксандра Лукашэнку гэта не задавальняла. З 20 ліпеня ён пераходзіць у іншую палітычную ролю. З абранага дэмакратычным шляхам кіраўніка дзяржавы ва ўзурпатара ўлады. Адзінай магчымасцю прымусіць еўрапейскія краіны і ЗША лічыцца з сваёй асобай для Лукашэнкі з'яўляецца стаць кіраўніком новага Саюза. Аднак яго чакала вялікае расчараванне. Расійскі бок адмовіўся ўводзіць пасаду прэзідэнта аб'яднанай дзяржавы. Гэта так абурыла Лукашэнку, што ён літаральна ўпаў у істэрыку.

Ад беларускага прэзідэнта можна чакаць усяго, але яго выступ на парламенцкім сходзе стаў больш чым сенсацыяй. Лукашэнка заявіў, што спыняе ініцыяваць інтэграцыю з Расіяй, а пачне наладжваць кантакты з Захадам. Чалавек, які яшчэ нядаўна казаў: „Что мы сегодня слезли в Беларуси с деревьев там сгрызли всю кору на верхушках, листву поели, сегодня питаемся непонятно чем, и мы рвёмся только бы объединиться с Россией". Па словах Лукашэнкі, зараз Беларусь будзе прадпрымаць рашучыя крокі ў агульнаеўрапейскай інтэграцыі. Ён сказаў, што даў загад Міністэрству замежных спраў пра наладжванне самых цесных суадносін з заходнімі краінамі. На думку беларускага прэзідэнта, па стане на 2 ліпеня, вялікай памылкай у яго знешняй палітыцы было рабіць „дикий крен на восток".

У Беларусі ніхто словы прэзідэнта не прыняў усур'ёз. Зразумела, што гэта была спроба напалохаць Расію магчымасцю страціць самага адданага саюзніка. Тое ж пацвердзілі наступныя дні. Падчас свайго побыту ў рэгіёнах Расіі, Лукашэнка ў чарговы раз заявіў, што яго словы сказілі журналісты. Аднак не змог утрымацца і паскардзіўся, як прапанаваў Ельцыну стаць першым прэзідэнтам саюза, а маўляў ён сам можа пачакаць, яўна намякаючы на ўзрост свайго расійскага калегі. На сесіі выканкама Саюза Беларусі і Расіі 7 ліпеня прэм'ер-міністр апошняй Сяргей Сцяпашын сказаў, што хоча зрабіць рашучыя крокі на шляху стварэння Саюза. 9 ліпеня ён даклаў Барысу Ельцыну пра гатоўнасць саюзнай дамовы. Расійскі прэзідэнт заявіў, што ў кастрычніку падпіша яе разам з Лукашэнкам. Але для беларускага прэзідэнта можа быць ужо позна.

**Зміцер Кісель**

## Зянон Пазьняк згодны на ўступкі

**Сенсацыйны факс атрымалі члены БНФ. Зянон Пазьняк інфармаваў сваіх калег аб тым, што ён гатовы пайсці на ўступкі і даць беларускаму кіраўніцтву Фронту права самастойна прымаць рашэнні, якія датычаць дзейнняў арганізацыі ў Беларусі.**

Аб тым, што Зянону Станіслававічу варта або вярнуцца на радзіму, або зняць з сябе частку паўнамоцтваў, гаварылася ўжо як мінімум два гады. Аднак апошні не спяшаўся адмовіцца ад свайго ўплыву на кіраванне арганізацыяй. Што ж схіліла яго пайсці на ўступкі? Хутчэй за ўсё, сустрэчы з кіраўнікамі рэгіянальных структур БНФ, якія нядаўна адбыліся ў Польшчы. Паводле нашых інфармацый, у ходзе размовы з Зянонам Станіслававічам лідэры мясцовых суполак БНФ зрабілі лідэру руху некалькі прынцыпова новых прапаноў, ад якіх, відаць, той не мог адмовіцца.

У чым заключаецца сутнасць новаўвядзенняў, прапанаваных Пазьняком? У сувязі з тым, што Фронт развіваецца ва ўмовах аўтарытарнай антыбеларускай дыктатуры, неабходна кардынальна мяняць прынцыпы кіравання арганізацыяй. У гэтых мэтах лідэр руху прапанаваў стварыць палітычны камітэт БНФ са статусам кансультацыйнага органа пры Сойме і старшыні. Структурныя пераўтварэнні дапаўняюцца ўвядзеннем расшыранага кіраўніцтва з удзелам прадстаўнікоў рэгіянальных суполак. Членаў Сойма павінна быць менш — 41 чалавек, прычым у яго састаў павінны ўваходзіць па 2 чалавекі ад кожнай вобласці рэспублікі. Самая цікавая частка паслання лідэра тычыцца павелічэння паўнамоцтваў членаў новага Сойма: „Калі старшыня Народнага фронту будзе за граніцай, то павінна быць актывізавана дзейнасць кіруючых асоб і кіруючых органаў Фронту. Усе канкрэтныя задачы і праблемы працы павінны рашацца ў Беларусі. Старшыня БНФ павінен узяць на сябе пытанні стратэгіі, а таксама курыраваць палітыку БНФ і замежную дзейнасць Фронту".

Трэба адзначыць, што нягледзячы на ўяўную рэвалюцыйнасць прапаноў Зянона Станіслававіча, частка членаў арганізацыі перакanaна ў тым, што яны не змогуць прадухіліць тыя тэндэнцыі, якія цяпер наглядаюцца ў арганізацыі. Вось як пракаментаваў ініцыятывы Пазьняка выканаўчы сакратар управы БНФ Вячаслаў Сіўчык:

— Я не лічу гэтае рашэнне паваротным. Я не бачу логікі ў тых дэталёвых планах рэфармавання, якія патрабуюць унясення большых змяненняў у статут. Я не бачу логікі ў такой, напрыклад, ініцыятыве, як змяншэнне колькасці членаў Сойма.

*— Як вы лічыце, ці новая прапанова Пазьняка зможа перамагчы наспяваючы ў арганізацыі раскол?*

— Я ўвогуле не схільны лічыць, што ў Фронце можа адбыцца раскол. Іншая справа, што нехта можа адысці з кіраўніцтва. Але тое, што пры гэтым ён абавязкова пакіне арганізацыю — не факт. Такім чынам, гутарка ідзе не аб расколе, але аб крызісе ўзаемаадносін паміж тымі, хто кіруе арганізацыяй. І ў гэтым сэнсе пасланне Зянона Пазьняка сітуацыю не выправіла. Гэта не крок, гэта хутчэй паўкрок. Паводле майго перакання, для далейшага функцыянавання арганізацыі павінна быць праведзена поўная рэформа ў кіраўніцтве. Неабходна адраджаць камісіі Сойма, неабходна аднавіць працу цэнявога кабінета БНФ. Прычым адкладаць гэта на доўгі час нельга — цяпер менавіта той момант, калі ад Фронту патрабуецца паўнацэнная работа.

Набліжаецца 20 ліпеня, тэрмін заканчэння прэзідэнцкіх паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі (гэты факт народ адзначыць 21 ліпеня гулянем на Кастрычніцкай плошчы). І таму ад вынікаў ліпеньскага з'езда БНФ залежыць вельмі многае.

**Віктар Мартыновіч**
*Белорусская деловая газета*
*№ 612, 16.07.1999 г.*






# Басовішча X

[1 ☞ праця̆г]
датных прыкладаў такой канфігурацыі) акрамя новага матэрыялу прыгадаў і вялікія свае гіты: „Краіна ў кратах", „Краіна Доўгай Белай Хмары" і „Радыё Свабода". „Н.Р.М." ужо прызвычаіла



сваіх паклоннікаў, што ў любым варыянце іхняя музыка гучыць выдатна — на „Басовішчы" можна было набыць касеты з акустычнымі канцэртамі гэтага гурту; вельмі рэкамендую пазнаёміцца з гэтым матэрыялам. Закончыў „Басовішча" польскі „Культ", які іграў амаль тры гадзіны. Быў гэта той момант, калі поўнасцю здзейснілася ідэя запрашання на „Басовішча" польскіх гуртоў. Уразіла тое, што „Культ" паводзіў сябе зусім нармальна, не „гвяздорска", а саліст, які прывітаў публіку „Жыве Беларусь", даказаў, што ведае, на якую імпрэзу ён трапіў.

Вельмі станоўча ацаніў „Басовішча" войт Яўген Семянюк, які, будучы на пасадзе ў Гарадку, пераж‌ыў у гэтай гміне дзевяць фестываляў. Паводле яго моладзь прыязджае ў Гарадок добра пагуляць, гэта з кожным годам штораз больш культурная моладзь, штораз менш тут каляровых чубоў. Трэба згадзіцца з гэтымі словамі, хаця варта адзначыць і тое, што ў сучаснай маладзёжнай модзе каляровы чуб саступіў месца агаленаму чэрапу.

„Басовішча" займела вядомасць і ў суседняй Беларусі. Пасля абвастрэння ў перасяканні мяжы паміж краінамі прыехаць на Фестываль стала не цалкам проста. Нягледзячы на гэта ў Барыку былі групы беларусаў, якія цалкам самастойна, на сваю рызыку і адказнасць прыбылі сюды, каб... патусавацца.

А што ад „Басовішча" мае наша беларускасць? Рок-музыка ў Гарадку хутчэй за ўсё абуджае сярод публікі эмоцыю, а не беларускую нацыянальную ідэю — гэта несумненна. Ці ёсць аднак тут нейкая вышэйшая звышмузычная каштоўнасць? Усё-такі ёсць. Беларуская мова выйшла са свайго зачараванага кола сарамлівасці. Яна ліецца ручаём сучаснай культуры, не здзіўляючы нікога і не абражаючы. Польскія і беларускія гурты выступаюць побач сябе як роўны з роўным. Ці перакладзецца гэта калі-небудзь і на іншыя сферы жыцця?..

У кожным выпадку, усяго табе найлепшага, „Басовішча", і на будучыя гады.

**Аляксандр Максімюк**
*Фота Паўла Супернака*

# Канцэрт — Купалле

Святкаванні Купалля ў Нарве, якія адбываліся ў пятніцу 9 ліпеня 1999 года, ужо чарговы раз арганізаваў Звяз беларускай моладзі. Аднак сёлетняе мерапрыемства накіравана было, у галоўным, да маладшай публікі, якая любіць мацнейшы рок. На гэты раз не было вясковых калектываў з Гайнаўшчыны ці Бельшчыны, якіх паслухаць прыходзяць старэйшыя людзі. На лугах распаложаных каля рэчкі Нарвы сабралася перш за ўсё моладзь сярэдніх школ і студэнты, але прыехалі таксама і старэйшыя прыхільнікі рок-музыкі, якіх манілі плакаты і запрашэнні на мерапрыемства. У гэтым годзе запланаваны былі выступленні вядомых рок-гуртоў з Беларусі: „Крыві", „Н.Р.М.", „Новага неба", „Уліса" і „Тройцы". Не даехала толькі „Тройца".

Спачатку сабралася крыху і старэйшых асоб, якія прыйшлі сустрэцца са знаёмымі і паслухаць сваёй музыкі. З задавальненнем успрынялі яны выступленні „Чарамшыны" і дудара з Беларусі Алеся Лося, які зараз жыве ў Гарадку, але калі пачаўся мацнейшы рок, пачалі яны разыходзіцца, а каля сцэны стала гуртавацца моладзь. Тыя, якія хацелі паразмаўляць, адыходзілі ўбок і за куфлем вялі дыскусію. Музыка гучала намнога цішэй, чым у час гарадоцкага „Басовішча", але войт гміны Нарвы Якуб Садоўскі, які афіцыйна адкрываў мерапрыемства, абяцаў, што і тут у наступным годзе апаратура будзе намнога мацнейшая. Відаць было, што новы войт хоча прыцягнуць увагу жыхароў Беласточчыны да турыстычных якасцей мястэчка Нарвы і заахвоціць да адпачынку на берагах яшчэ чыстай ракі. Управа гміны Нарвы разам з Міністэрствам культуры і мастацтва з'яўлялася галоўным спонсарам мерапрыемства.

Канцэртныя выступленні вядомых беларускіх рок-гуртоў выклікалі сярод маладых людзей вялікае захапленне. Мае суразмоўцы не скрывалі, што прыехалі ў Нарву не дзеля купальскіх традыцый, а каб паслухаць „Н.Р.М." ці „Уліса". Аднак арганізатары прадбачылі і традыцыйныя купальскія гульні, падчас якіх дзяўчаты пускалі вянкі, юнакі раскладалі вогнішчы і ўсе супольна спявалі.

**Аляксей Мароз**

# „Вольныя танцы" ў такт беларускага рока

Доўга нам усім прыйшлося чакаць кампакт-дыска, які б у рэшце рэшт быў сапраўдным паказчыкам усяго, што адбываецца ў маладзёжнай беларускамоўнай, альтэрнатыўнай музыцы ў Беларусі. Тысячным тыражом Беларуская музычная альтэрнатыва з Мінска паказала вельмі падрабязна і шырока тое, чаго слухае беларуская моладзь. Кампакт-дыск (сідзічка — вельмі цікавая назва для CD) гэты выдадзены пад лозунгам „Слухай сваё" ды загалоўкам „Вольныя танцы"; чаму вольныя — не ведаю.

Змест выдання гэта наймацнейшы бок „Вольных танцаў". Апрача такіх зорак беларускай музыкі як „Уліс" і песні *Танцы на даху*, „Н.Р.М." у песнях пра каханне і падземных жыхароў, „Крама" ці „Новае Неба", на кружэлцы гэтай вельмі многа і цікавых маладых гуртоў і ўжо вядомых дэбютаў — як „Мясцовы час", які адрадзіўся пасля пяці гадоў маўчання песняй *Пра любоў*.

„Вольныя танцы" — паказчык усяго маладзёжнага музычнага руху ў Беларусі. Не бракуе тут анархісцка-панкавых матываў — „Deviation", моцнага язычніцкага дээф метал „Зьніч" — у якім маладыя хлопцы захопліваюцца нашай сапраўднай спрадвечнай культурай, якая яшчэ ненарушаная хрысціянствам. Вельмі цікавым мне асабіста здаецца быць гурт „Жыгімонт Ваза", які, перад усім, мяне асабіста пераканаў да слоў Віталя Супрановіча (старшыні БМА), што „ў Беларусі ёсць многа вельмі маладых беларускамоўных гуртоў, якія іграюць вельмі амбітны ды сучасны рок". Я „Жыгімонта Вазу" лічу проста беларускім адпаведнікам нашай гарадоцкай Р.Ф. „Брагі". Цікавым ды вельмі працавітым і таленавітым здаецца быць гурт „Kriwi", які знаёміць слухача з новай апрацоўкай песні *А-гу, вясна*, якая ў іншай апрацоўцы народнага твора гучыць на апошняй плёнцы пад загалоўкам *За туманам*. З ліку ўсіх гэтых захапленняў, галоўным чынам, паводле мяне, найлепшай думкай укладальніка музыкі ў „Вольных танцах" было ўключэнне песні гурту „Postscriptum" *Сонейка*. Прызнаюся: вельмі доўга я чакаў, калі паявіцца сапраўднае амбітнае беларускамоўнае тэхна, і вось дачакаўся — клас!!!

Добрай справай было апісанне кожнага з гуртоў у некалькіх словах, што важнае — у дзвюх мовах — беларускай ды ангельскай. Слухаем і разумеем!

Не спадабалася мне перад усім тое, што на CD „Вольныя танцы" апынуўся рускамоўны гурт „Нейро. Дубель". Шкада, хаця прыпеў *Belorusion uber ales*, вельмі цешыць вуха маладога беларуса, але руская мова вельмі знеахвочвае да далейшага слухання гэтага твора. Нецікавым здаецца быць таксама гурт „Склеп". Хаця музычныя аранжы ў яго на даволі высокім узроўні, то вакал выразна слабенькі — проста спеў псуе цэласны вобраз гурту „Склеп". Здаецца, што слухаеш нейкіх педэрастаў.

На канец хачу пажадаць Беларускай музычнай альтэрнатыве больш падобных ініцыятываў. Хацелася б мець у сваёй CD-тэцы больш беларускіх сідзічак. Мне асабіста не хапае тэматычных выданняў, напрыклад, CD з беларускімі бардамі, з беларускім тэхна, панкам, блюзам, фольк-мадэрн-рокам і т.п. „Вольныя танцы" павінны мець усе людзі, якія цікавяцца беларускім рокам, а перад усім арганізатары Фестывалю „Басовішча" — бо ўсё плачуць, што ў Беларусі няма нічога новага ў музыцы!

**Лукаш Сцепанюк**

# Адкрываю карані

[1 ☞ працяг]

частка людзей звязаных з Філіяй быццам страціла веру ў тое, што можа паўстаць універсітэт. І сапраўды я некалькі разоў асабіста хадайнічаў, каб гэта завяршылася паспяхова. І лічу, што добра сталася.

***— Цяпер, пасля змены ўрада, наглядаем застой, нават ваяводства не ўдалося ўтрымаць у старых межах. Як Вы гэта бачыце?***

— Ведаеце, калі гаварыць пра кшталт нашага ваяводства, яно паменшала тэрытарыяльна; гэта неаспрэчны факт. Тут вялікую ролю адыгрываў свайго роду лобінг, уплыў мясцовых палітыкаў і асяроддзяў дауняга Альштынскага і нашага ваяводстваў. І выявілася, што палітыкам звязаным з Ольштынам удалося пераканаць большасць паслоў, бо канчаткова яны пра гэта вырашылі. А пэўны заўважальны спад, напр. гаспадарчай актыўнасці, я звязваў бы з аднаго боку з агульнай гаспадарчай сітуацыяй Польшчы, якая яўна пагоршылася за апошнія дзесяць з лішнім месяцаў, а таксама з эканамічнай сітуацыяй нашых усходніх суседзяў; гаспадарчая сітуацыя Расіі і Беларусі вельмі дрэнная. І з другога боку з пэўнымі памылковымі рашэннямі, якія прымаліся па абодвух баках мяжы: так польскім урадам на пачатку мінулага года, як і беларускімі ўладамі. Маю на думцы рашэнні, якія прывялі да складанасцей пры перасяканні мяжы. Як вядома, вельмі многа асоб, пражываючых у нашым рэгіёне, у апошнія гады жылі з прыгранічнага гандлю. І несумненна яны адчуваюць вынікі абмежавання гранічнага руху.

***— Еўрапейскі Саюз адводзіць дапаможныя сродкі для найбольш адсталых рэгіёнаў. Які шанс, у сітуацыі бадай адтэрміноўвання прыняцця Польшчы ў Еўрапейскі Саюз і патрэбы аказання гаспадарчай дапамогі балканскім дзяржавам, на атрыманне згаданых сродкаў мае наш рэгіён, а калі так, то на што і ў якім кшталце?***

— Гэта добрае пытанне, бо пасля ваенных дзеянняў НАТО ў былой Югаславіі патрэбная рэканструкцыя і адбудова тамашніх мясцовасцей ад знішчэнняў, каб, паводле меркавання, што толькі паляпшэнне дастатку там пражываючых людзей можа давесці, праўда — не адразу, да больш трывалага ўспакаення страсцей, навучыліся з сабою жыць у міры. Узнікае тады пытанне, адкуль дзяржавы Еўрапейскага Саюза возьмуць на тое грошы. Існуе пэўная рызыка, што могуць быць гэта грошы раней запланаваныя на падтрымку новых, будучых членаў Еўрапейскага Саюза, у тым і Польшчы. Некалькі месяцаў таму на сустрэчы ў вярхах Еўрапейскага Саюза ў Берліне прыняты пакуль абавязковыя пастановы адносна бюджэту ЕС да 2006 года і там прадугледжаны немалыя квоты на дапамогу, як на г.зв. перадакцэсійную — перад прыняццём у ЕС, так і пазней; каля 40-50% тых сродкаў дастанецца, відавочна, Польшчы. У апошніх заявах прамінентных прадстаўнікоў ЕС адзначалася, што няма рызыкі, што тыя прызначаныя новым членам сродкі будуць выкарыстаны ў балканскім рэгіёне, аднак паявіліся і такія сцвярджэнні ў родзе закліку пра салідарнасць з боку такіх дзяржаў як Польшча. Я гэта асабіста тлумачу, што праз нейкі час, не аднабаковым рашэннем Брусэля, але па прынцыпу ўнушэння ці закліку накіраваных у нашым напрамку прыйдзецца нам тымі грашыма дзяліцца.

Еўрапейскі Саюз мае некалькі асноўных прынцыпаў свайго функцыяніравання. Адным з іх з'яўляецца выроўніванне розніц ва ўзроўні развіцця паміж паасобнымі часцямі і рэгіёнамі. З гэтага пункту гледжання так цэлая Польшча, як краіна слабей развітая, як і асабліва горш развітыя рэгіёны, у тым і Усходняя сцяна, могуць разлічваць на еўрасаюзную падтрымку. Ці мы гэта выкарыстаем, у вялікай ступені залежыць ад таго ці такія рэгіёны як Падляшша будуць дастаткова актыўныя і прыгатаваныя ў прадстаўлянні канкрэтных праектаў, якім патрэбны дафінансаванне ці сфінансаванне. Цяпер у самаўрадавых уладах ваяводства працуем над стратэгіяй гаспадарчага развіцця і ў рамках тае стратэгіі мы павінны стварыць пэўныя канцэпцыі і працэдуры, механізмы дзеяння, якія б дазвалялі апрацоўваць канкрэтныя праекты прадстаўляемыя пазней польскаму ўраду і ўладам ЕС з просьбай пра фінансавую падтрымку. Актуальнае для нас пытанне такое: ці мы ўмеем гэта зрабіць? Прынцыпам расходавання ЕС грошай з'яўляецца тое, што рашэнні мусяць быць папярэджаны прафесіянальна апрацаванымі праектамі, якія маюць быць фінансаваныя, а гэта залежыць ад таго, хто хадайнічае пра тыя грошы.



*Уладзімеж Цімашэвіч з жонкай Барбарай.* Фота Анатоля ВАКУЛЮКА

Грошы тыя маглі б быць прызначаны галоўным чынам на інфраструктуру, напр. камунікацыйную, але маглі б быць таксама выкарыстаны на развіццё тых галін гаспадарчай дзейнасці, якія натуральным спосабам звязваюцца з гэтай тэрыторыяй і якія былі б цікавымі з пункту гледжання інтарэсаў ЕС, напр. турызм. Я думаю, што ЕС напэўна ў большай ступені заангажуецца ў разбудову гранічнай інфраструктуры — усіх пагранпераходаў, тэрміналаў на нашай усходняй мяжы, таму што на Захадзе расце свядомасць таго, што наша ўсходняя мяжа неўзабаве стане ўсходняй мяжою ЕС.

***— Захад можа дапамагаць вонкі, напр. балканскім дзяржавам — гэтага хіба ніхто не забараняе. Але ці міжнароднае права, — пытаю Вас як спецыяліста ў гэтай галіне, — дазваляе на інтэрвенцыю сіл НАТО па-за тэрыторыяй пакта, напр. у Югаславіі? Нашы чытачы не надта гэтым захоплены, звяртаючы ўвагу, што ў самым НАТО, напр. у Курдыстане, сітуацыя хіба нават больш сур'ёзная чым у Косаве. Здаецца, што хрысціянскія лідэры НАТО не заўважаюць евангелічнай калоды ў сваім воку.***

— Я быў адным з нямногіх польскіх палітыкаў, які адкрыта гаварыў пра сумненні і засцярогі адносна аперацыі НАТО ў былой Югаславіі; гаварыў я пра гэта па тэлебачанні і падпісаўся пад двума важнымі сеймавымі дакументамі: лістом да прэзідэнта Біла Клінтана, заклікаючага да пошукаў палітычнага вырашэння а таксама праекта рэзалюцыі Сейма ў той самай справе; рэзалюцыя не разглядалася, бо раней былі стрыманы бамбардаванні Югаславіі. Я меў і маю многа сумненняў наконт тае аперацыі з кожнага пункту гледжання, у тым і з пункту гледжання міжнароднага права. Па-першае: у міжнародным праве абавязвае абсалютная забарона прымяняць сілу, а адзіныя дапускаемыя выключэнні прадбачаны Хартыяй А'ядналых Нацый і апісваюць умовы, якія трэба задаволіць, каб на аснове рашэння Савета Бяспекі прадпрымаць такія дзеянні; у гэтым выпадку вымаганыя ўмовы не былі задаволены. Падругое: Вашынгтонскі трактат — той дагавор, які стварыў НАТО, выразна гаворыць пра абарону дзяржаў-членаў ад нападу звонку і то на г.зв. паўночнаатлантычным абшары: ЗША, Канада, паўночная частка Атлантыкі і еўрапейскія дзяржавы, якія да НАТО належаць; і гэтая ўмова не была задаволена. З другога боку, у тых рэштковых дыскусіях пра юрыдычныя аспекты аперацыі, і трэба пра гэта прыпомніць, ставілася пытанне шанавання правоў чалавека і дазволу на інтэрвенцыю міжнароднай супольнасці ў выпадку, калі тыя правы чалавека знойдуцца пад сур'ёзнай пагрозай. Я не маю сумненняў, што ў Косаве даходзіла да парушэння правоў албанскай меншасці і то прынамсі ад дзесяці гадоў, калі на аснове рашэння югаслаўскага ўрада ліквідавалася аўтаномія Косава, і што даходзіла там да жорсткіх злачынстваў на косаўскіх албанцах, у тым ліку і да масавых забойстваў. Тым не менш, мае веды ў галіне міжнароднага права не дазваляюць мне пацвердзіць распаўсюджваемую тэорыю пра права да г.зв. гуманітарнай інтэрвенцыі, а зусім наадварот: у міжнародным праве шматразова падкрэслівалася, што лозунг гуманітарнай інтэрвенцыі бывае пэўнай адмычкай, пэўнай зачэпкай, выкарыстоўваемай для зусім іншых мэтаў.

У гэтым выпадку я перакананы і веру, што аперацыя НАТО ў вялікай ступені была сапраўды звязана з абаронай правоў албанскай меншасці ў Косаве, хаця, адыходзячы тут ад міжнароднага права, а больш гаворачы пра міжнародную палітыку, я перакананы, што прысутнічалі тут элементы калькуляцыі, кранаючай суадносін сіл у гэтым рэгіёне, пазіцыі і ўплываў Расіі і г.д. Дарэчы, мае сумненні выцякалі і з тае прычыны, што ўсім, а веру, што грамадствам натаўскіх дзяржаў, у тым і польскаму грамадству, залежыць на тым, каб Расія развівалася мірна, каб мацаваліся а не слабелі там дэмакратычныя тэндэнцыі. Усім ім павінна залежаць на тым, каб Расія не станавілася дзяржавай штораз больш падазронай у адносінах да свету. Таму паражае хоць бы і тое, што праводзіць бамбардзіроўкі вырашана ў той час, калі тадышні расійскі прэм'ер-міністр Прымакоў ляцеў менавіта ў Вашынгтон; гэта ў міжнароднай дыпламатыі было падзеяй беспрэцэдэнтнай. Такім чынам амерыканская дыпламатыя дапусцілася многіх памылак у выніку няўмеласці, браку прафесійнасці ці непрадуманасці розных варыянтаў развіцця падзей. Дайшло такім чынам да амаль бязвыхаднай сітуацыі, калі трэба было рашыцца або на бамбардзіроўку, або паяўлялася сур'ёзная рызыка падзення прэстыжу цэлай структуры пакта. Рэзюміруючы, добра, што той канфлікт у мілітарнай сферы закончыўся, але ў палітычным і чалавечым аспекце будзе ён працягвацца даволі доўга. Баюся, што ход таго канфлікту давёў да росту і абвастрэння нянавісці паміж пражываючымі там народамі, а асабліва паміж сербамі і албанцамі і гэта будзе адчувацца на працягу дзесяцігоддзяў.

***— Вайна ў Косаве была вайною за правы чалавека. У Польшчы некаторыя менш роўныя перад законам — меншасці — не маюць права на эпітафію сваім родным — ахвярам насілля. Ці радуе Вас факт, што дыскрымінуецца Ваш электарат у дзяржаве, якую і Вы ўводзілі ў НАТО — гаранта чалавечых правоў?***

— Вядома, што гэта мяне не цешыць, а зусім наадварот: я мяркую, што паводзіны дзяржаўных улад у справе абеліска на могілках у Бельску — скандальныя. І гэта вельмі неразумныя паводзіны, таму што ўсім людзям з уяўленнем і добрай воляй павінна залежаць на тым, каб у такіх рэгіёнах, як наш, утрымоўваліся добрыя суадносіны паміж людзьмі незалежна ад іх веравызнання ці нацыянальнасці. Гэта павінна суправаджацца свядомасцю, што трэба сабе ўзаемна аказваць пашану: свайму мінуламу, сваім не толькі станоўчым здзяйсненням, але і сваім крыніцам болю, сваім трагічным перажываням. І калі, што з'яўляецца фактам, у перыяд свайго роду грамадзянскай вайны ў Польшчы перад і пасля заканчэння другой сусветнай вайны даходзіла да такіх падзей, калі праваслаўных людзей забівалі таму, што былі праваслаўнымі, то кожны, хто не з'яўляецца праваслаўным, а — паўтараю — з'яўляецца чалавекам добрай волі і з уяўленнем, павінен быць свядомым таго, што пра тое таксама трэба помніць. Я не належу да палітыкаў, якія прымяняюць чужыя цытаты, аднак цяпер дазволю сабе на цытату з выказвання Яна Паўла II падчас яго апошняга візіту ў Польшчу, калі ён сказаў, што прабачэнне не раўназначнае забыццю, але трэба сабе ўзаемна даравань, помнячы пра тое, што здарылася; і так праваслаўныя маюць права на памяць пра тыя драмы, што здарыліся, так як і большасць насельніцтва гэтай зямлі мае абавязак помніць пра крыўды, якія былі ўчынены праваслаўным.

***— Што Вы яшчэ, апрача таго, пра што я Вас пытаў, хочаце ад сябе сказаць нашым чытачам?***

— Я свядомы таго, што ў нашай частцы Польшчы жывецца нялёгка, бо гэты рэгіён гістарычна менш развіты; гэта не заслуга апошніх месяцаў ці гадоў. Гэта рэгіён, у якім няма моцных мясцовых крыніц развіцця і росту. Аднак гэты рэгіён мае і элементы свайго багацця; часам нам цяжка паверыць, што гэта багацце, а не нейкі лішні груз — маю на думцы ўсё тое, што складаецца на прыгажосць гэтай зямлі: яе гісторыю і традыцыі. Мяне асабіста вельмі захапіла гісторыя гэтай зямлі, яе ўсебаковая разнастайнасць. Варта, усведамляючы сабе ўсё тое, рабіць безупынна ўсё, каб пражываючы тут людзі сужылі як найбольш дружна. Каб было гэта нешта большае, чым мірнае жыццё побач сябе, але каб было гэта жыццё з сабою, каб не толькі сябе ўзаемна цярпелі, але і былі сабою зацікаўлены, бо варта. Многаразова я ў сваіх публічных выказваннях гаварыў, што такая разнастайнасць узбагачвае, толькі трэба гэта зразумець і трэба ўмець чэрпаць з тае скарбніцы, бо як жа гэта сімпатычнае, станоўчае, што тут такая культурная разнастайнасць, што тут можна пабачыць і пачуць тое, чаго нідзе больш у Польшчы не пабачыцца і не пачуецца. Я вымушаны сказаць чытачам, што здаўна прывожу на Беласточчыну розных людзей: палітыкаў, сваіх асабістых знаёмых і чужаземцаў, вельмі часта з'яўляюся іх гідам; не здаралася мне яшчэ ні разу, каб мой госць выехаў адсюль не ўражаны, не захоплены пабачаным! Наогул людзі здзіўлены, многія палякі яшчэ тут не бывалі і амаль нічога не ведаюць пра наш рэгіён. І гэта мы павінны самі ацаніць і па меры магчымасцей гэта выкарыстаць на карысць нас усіх.

***— Дзякую за размову.***

# Шляхам Яносіка

Пры нагодзе службовай пабыўкі ў Славакіі вырашыў я на некалькі дзён даўжэй затрымацца ў гэтай краіне і падаўся на яе правінцыю, у ваколіцу Ліптоўскага Мікуляша, дзе пры канцы XVIII стагоддзя дзейнічаў славуты разбойнік Яносік. У Мікуляшы ёсць помнік, вуліца і гатэль, прысвечаныя памяці легендарнага народнага героя. Яносік, аднак, мала бываў у гэтым горадзе, яго там толькі павесілі за рэбра. Перш за ўсё дзейнічаў ён у навакольных горах.

У межах Славакіі знаходзіцца звыш 90 працэнтаў Татраў. Горы гэтыя вышэйшыя там і больш маляўнічыя чым у Польшчы. Славацкія Татры адрозніваюцца яшчэ і тым ад польскіх, што цяжка там у разгар лета спаткаць другога чалавека. Турыстычныя шляхі ў нацыянальным парку ў Закапанэм часам нагадваюць беластоцкую вуліцу Ліповую пасля абеду. У славацкіх горах можна часам ісці цэлы дзень і не сустрэць ніводнай істоты падобнай да чалавека. Ніжэй, дзе расце лес, чуецца толькі спеў птушак, вышэй — шум ветру і цурчанне вады горных ручайкоў. Адсутнасць людзей стварае натуральную чысціню тамашніх шляхоў. Ваду можна піць проста са шматлікіх вадаспадаў. Дарэчы, летам няма іншага выхаду як карыстацца гэтай крыніцай напою, таму што цяжка было б цягнуць з сабой у горы пару літраў мінералкі, купленай у краме, праўдападобна налітай з нейкага горнага ручая. Турыстаў найчасцей можна сустрэць там у вышэйшых месцах, дзе можна падняцца на канатнай дарозе. Аўтобусы прывозяць іх пару метраў да астаноўкі дарогі-транспарцёра, а пасля ў даволі выгадных крэслах здабываюць яны нейкую горную вяршыню. Пераважная большасць такіх заваёўнікаў гэта турысты з Польшчы.

Варта грамадзянам Польшчы ехаць у Славакію адпачываць. Праезд мяжы з гэтай краінай зусім беспраблемны. Жыхары прыгранічных мясцовасцей з Польшчы ходзяць раніцай на славацкі бок за пакупкамі. Цалкам легальна можна сто метраў ад дзяржаўнай мяжы купіць скрынку піва і веласіпедам вярнуцца дахаты. Па абодвух баках мяжы можна таксама памяняць залатоўкі на кароны і наадварот. Ува ўсіх пунктах абмену валюты на тэрыторыі Славакіі купляюць залатоўкі таксама як долары. Таму і неабавязкова перад выездам мець у кішэні заходнюю валюту. Другая прычына, якая заахвочвае наведваць гэтую краіну, гэта блізкасць моў.



Хто ведае польскую, беларускую і рускую зразумее кожнага славака. Яны таксама не маюць праблем з разуменнем польскай мовы. Горш калі гаворыцца з імі толькі на беларускай. І патрэцяе — у Славакіі проста ўсё, што партэбнае замежніку, таннейшае чым у Польшчы.

Начлег у прыватнай кватэры з чыстым туалетам і цёплай вадой можна атрымаць ужо за 10 злотаў. Не нашмат больш каштуе харчаванне, пры ўмове, што будзем карыстацца славацкімі прадуктамі. Імпартныя такой самай ці нават горшай якасці ў тры разы даражэйшыя. Таму славакі менш спажываюць амерыканскай ці бельгійскай курыціны чым палякі. Для больш багатых — пакой у нядрэнным гатэлі можна атрымаць за 40-70 злотаў за дзень пабыўкі. Дарэчы, гатэлі ў горных курортах стаяць амаль пустыя. Толькі ў суботу ды нядзелю назіраецца ў іх трошку больш рух. Галоўным чынам прыязджаюць сюды адпачываць пажылыя чэхі і немцы. Відаць, бываюць тут ад дзесяткаў гадоў. Славакі — як мне тлумачылі адміністратары гасцініц — забедныя, каб карыстацца такімі паслугамі. Ад часу, калі ад улады адышоў Мечыяр — пераконвалі — штораз больш людзей траціць працу, узрастаюць цэны, а новыя ўлады балбочуць безупынна пра рынкавую гаспадарку і ўваход у Еўропу.

Сярод славакаў на правінцыі не адчуваецца энтузіязму ні для Еўрасаюза, ні НАТО. Першая ўстанова асацыюецца галоўным чынам з беспрацоўем і ростам цэнаў, другая — з югаслаўскай вайной. Славацкая прэса піша пра Косава таксама як польская на першых старонках, але бачанне гэтага канфлікту тамашнімі журналістамі зусім іншае чым, напрыклад, „Газеты выбарчай". На пачатку ліпеня шмат пісалася там пра драму косаўскіх ромаў, якія сталі галоўнымі ахвярамі албанцаў. Газеты інфармавалі пра гвалты і зверствы баевікоў Албанскай вызвольнай арміі над цыганскім насельніцтвам, якое не ўцякло з сербамі пасля капітуляцыі югаслаўскай арміі. З размоваў са славакамі вынікае, што вайна НАТО з сербамі не была іх вайной. Слухалі інфармацый з усіх бакоў, аднак з нейкім спачуваннем ставяцца да сербаў. У сваёй краіне маюць звыш дзесяці працэнтаў венграў. Большасць славакаў перакананая, што з'яўляюцца яны пятай калонай суседняй дзяржавы і што ўрад дзеля еўрапеізацыі краіны надта падтрымлівае гэтую варожую ім меншасць. Нават 5 ліпеня, у дзень нацыянальнага славацкага свята, у касцельнай радыёперадачы ксёндз адклікаючыся да традыцыі Кірылы і Мяфодзія гаварыў пра іх збаўчы ўплыў у змаганні з мадзярызацыяй рэлігійнага жыцця славакаў. Антывенгерскія настроі сярод славакаў смела можна параўноўваць да антырасійскасці палякаў.

Аматараў піва і іншых алкагольных напояў у Славакіі могуць зацікавіць іх якасць і цэны. Піўзаводы ў большасці яшчэ ў славацкіх руках. Прапануюць яны некалькі дзесяткаў гатункаў сваіх прадуктаў, наогул вельмі высокай якасці, у цане ад 0,7 да 1,5 зл. за паўлітровую бутэльку. У рэстаранах цана не перавышае 2 злотаў. Гарэлка і віно прыблізна два разы таннейшыя чым у Польшчы.

Славакі наогул ветлівыя людзі, а іх краіна даволі бяспечная для замежнікаў. У горскіх мясцовасцях — паясняліі мне жыхары вёскі — зрэдку здараюцца крадзяжы. Сярод горцаў злодзей ізалюецца ад грамадства так, як хворы чумой. Таму часам у вясковай краме трэба чакаць пару мінут пакуль прыйдзе прадавец, каб прыняць ад кліента грошы за тавар. Нейк нікому не прыходзіць у галаву ўзяць прадукты і проста выйсці. Тым часам у беластоцкіх хатах найчасцей тры замкі забяспечваюць дзверы і не заўсёды з'яўляюцца яны перашкодай для зладзеяў.

**Яўген Мірановіч**

**З маіх падарожжаў**

# Дзве Францыі

**(1. У 1978 годзе)**

У 1978 годзе мне давялося адпачываць у Ніццы. Зрабіўшы немалое падарожжа па Італіі, мы спыніліся ў гэтым французскім курорце, такім шматлюдным (асабліва гэта было відаць на пляжах) і адначасова такім спакойным і элегантным. Адсюль можна было праехацца па французскай Рыв'еры, наведаць Каны, Сэн-Поль ці Монтэ-Карла, паглядзець там казіно, прыгажэйшыя праваслаўныя храмы (у каталіцкай Францыі!), а ў княстве Манака — дадаткова яшчэ і палац князя Рэнье ды славуты музей акіянаграфіі.

Усе яшчэ былі пад уражаннем пабыту ў Італіі, які ў вачах некаторых турыстаў гранічыў з геройчным учынкам. У Італіі абкрадалі чужаземцаў без ніякай літасці. Хапіла камусьці прысесці на скверыку і палажыць на лаўцы сумку, як сумкі ўжо праз момант не было. Зладзеі браліся невядома адкуль, паяўляліся неспадзявана, быццам вырасталі сярод дрэў, вылазілі з кустоў. Іх спрытнае вока заўважала ўсё, што можна было прыбраць камусьці з-пад носа.

Можна было, напрыклад, ісці сабе спакойна па тратуары, трымаючы сумку на плячы, і, не чакаючы нічога кепскага, разглядацца па вітрынах. Неспадзявана ззаду з неймавернай хуткасцю падлятаў матацыкл з матацыклістамі ў цёмных касках і той, што сядзеў на месцы пасажыра, хапаў сумачку з пляча жанчыны, як сваю — і ўжо яны раствараліся ў імгле. Няма грошай, а найгоршае — што і дакументаў няма. І... шукай ветру ў полі. Знайсці такога злодзея амаль немагчыма.

А бывала таксама, што аглядае чалавек нейкі старажытны касцёл або іншы помнік архітэктуры, заглядзіцца, пра ўласную бяспеку нават не думае, толькі апарат на плячы павесіў, здымкі час ад часу цыкае. Ну, і хоча зрабіць наступны здымак на памятку, схапіўся за рамень апарата, каб зняць яго з пляча, а тут адно рамень застаўся. Абрэзалі — і апарат павандраваў у зладзейскія рукі.

Гіды бясконца папярэджвалі, што трэба сачыць за сваімі рэчамі, бо ў Італіі крадуць, і менавіта гэта справа крыху псавала нязвыклы настрой падарожжа.

Узбударажаныя тымі „італьянскімі" звычаямі, мы і ў Францыі адчувалі сябе не вельмі ўпэўнена, на кожным кроку асцерагаючыся „неспадзевак-сюрпрызаў".

У Монтэ-Карла мы выехалі а шостай раніцы. Служба ў гатэлі разбудзіла нас своечасова, каб ніхто не спазніўся.

Я ўжо не кажу пра казачнай прыгажосці прыроду, якую давялося нам аглядаць з вакон аўтобуса, калі мы ехалі ў княства Манака. Фактычна яго сталіца Монтэ-Карла і складае цэлую гэту мікраскапічную, але і багацюшчую дзяржаўку, якая дзякуючы заробкам у казіно дазваляе сваім жыхарам (ад трэцяга пакалення) не плаціць падаткаў. Жыць без падаткаў, што за рай!

Не памятаю, дзе — у музеі акіянаграфіі ці ў казіно — я ўспомніла, што ўсю сваю біжутэрыю я пакінула ў гатэлі ў Ніццы. На сэрцы паледзянела. Ужо як бы і развіталася я з ёю. Кажу пра сваю бяду экскурсаводу, нашаму „пілоту". „А ў Францыі не крадуць, — супакоіў ён мяне. — Не хвалюйцеся, усё будзе ў парадку!" Мне адлягло, але ўсё ж я не была ўпэўнена, што ўжо калі-небудзь убачу свае „цацкі".

Ну, і навошта мне гэта было?! Каб была я палажыла пярсцёнкі і бранзалеты ў сумачку ці проста на стале, дык усё было б у парадку: яны былі б са мной. Дык не! Трэба было мне іх схаваць. Узяла я і палажыла ў найбольш „пэўнае" месца — пад падушку. А мо хтосьці ўвойдзе ўначы ў пакой і са стала забярэ ўсё. А так — пад галавой — ніхто не кране! Палажыла я сваю скромную біжутэрыю пад падушку і забылася. Раніцай паехалі ў тое Монтэ-Карла, дзе мы з дачкой прайгралі ў славутым казіно ўсе франкі, прызначаныя на пабыт у Францыі. Муж быў больш „разважны" і ў нішто там не гуляў. Купленыя жэтоны прывёз сабе на памятку.

Можа, мы тыя грошы прайгралі, як кажуць, „з нерваў". Я думала ўсё пра тое, што засталося ў гатэлі, а дачка ўсё спадзявалася, што цяпер то ўжо напэўна выйграе. Людзі куплялі нейкія ніткі з махеру, афрыканскую біжутэрыю (поўна афрыканцаў стаяла на ўзбярэжжы і гандлявала сваімі вырабамі, якія былі тады ў нас у модзе), а мы з дачкой толькі спаглядалі на гэта з ноткай зайздрасці, бо іншыя куплялі гэтага шмат. У ксяндза Бяляўскага з касцёла св. Роха мая дачка пазычыла шэсць франкаў і выслала паштоўку свайму хлопцу.

У Ніццы — прыемнае расчараванне. Адчыніўшы пакой у гатэлі, — я ўбачыла, што ўсё там прыбрана. Божа! І ложак мой засланы акуратненька, а падушка падбітая высока. Я маланкава ўсадзіла руку пад падушку. Няма?!

Падняла ў роспачы вочы, а тут гляджу: на стале ў попельнічцы ляжаць, паскладаныя, усе мае „скарбы". Ну і Францыя, падумала я. І тады я адчула да французаў вялікую пашану.

І шанавала іх вельмі доўга... Але пра гэта пазней.

**Ада Чачуга**

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## *Хрысціянскі шлях над Бугам*

Праз раскінутыя пагоркі праблісквае Буг. Лясы лёгка зарысоўваюць профіль неба. Уводдалі віднеюць руіны царквы, асыпаныя праменнем сонца на захадзе. Перад намі цудоўная мясціна Мельнік. Месца, дзе нараджаліся славутыя людзі, дзе змрочным шляхам таямніц плыве жыццё...

У горах адчуваецца заўсёды штосьці грознае, дзікае. Праз лясныя дарогі ішоў шлях манахаў з поўдня на поўнач. Завяршыўся тут першы хрысціянскі шлях. Воддаль разбуранай царквы зняходзіўся каталіцкі касцёл. Легенда кажа, што касцельнымі падваламі можна прабрацца цераз Буг... Але ж маладыя студэнты-археолагі нічога тут такога не дашукаліся. Але мы можа і знойдзем закапанае ў горах легендарнае золата? Народ кажа, што манахі закапалі яго ад вачэй сквапных людзей недзе вось ля руін царквы...

Шырокі Буг заахвочвае ўсіх кінуцца ў сваю плынь, пакупацца. Асабліва вечарам, калі над тонню ўздымаюцца воблакі туману. Мельнік вядомы крэйдай. Летам сонца тут так адбівае праменне, што без акуляраў проста слепнеш. Чароўнасць гэтага месца праўляецца і ў раслінным свеце. На гары Ушэсце растуць цёплалюбныя зёлкі (напрыклад альпійская сон-трава). На пагорках астаўся толькі друз, каменне ды руіны дахрысціянскіх святыняў. Многа помнікаў разбурылася і ў час апошняй вайны. У ваенны час рака Буг была граніцай між немцамі і саветамі. Мельнік атрымаў быў гарадскія правы ў XII стагоддзі, аднак многа людзей пакінула яго на працягу гісторыі. Зараз гэта невялікі гарадок.

Мала хто ведае, што спаленая на святой Гары Грабарцы царква раней стаяла ў Мельніку. Толькі крыжы і пахілыя дрэвы сведчаць пра тое, што тут быў храм. Адчуваецца ўсюды праніклівы дух праваслаўя і таямнічасці.



*Ганна і Нінка.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Сёння Мельнік асацыюецца мне з фестывалямі крэсавай і ўкраінскай музыкі, са славутым прозвішчам Яраслава Вішанкі (маляваў царкву на Грабарцы). Духоўнае багацце больш вартаснае ад схаванага золата.

**Анна САДОЎСКАЯ**

PS. Дзякуем сп. Слаўку Сняжко і яго сям'і!




*Пастаноўка „Дзед і баба" ў выкананні самадзейнікаў з Нарвы.* Фота Ганны КАНДРАЦЮК

## *Ліпень*

Цераз палі, лугі і рэкі
Нёс лета Ліпень-чараўнік.
Пад ліпу сеў і да жалейкі
Губамі млявымі прынік.
Дрыжаць пялёстачкі рамонкаў
На вейках змружаных вачэй.
Струменьчыкам мядовым тонкім
Павольна музыка цячэ.
Цячэ... І сонным ліпам сніцца
Руплівых пчол гуллівы хор,
І сонца спелаю суніцай
У стоме хіліцца за бор.

**Алег МІНКІН**

## *Экзамены*

У першы клас Гайнаўскага белліцэя склалі прашэнні 154 вучні. Паводле віцэ-дырэктара Аляксандра Лаўрыновіча, старшыні экзаменацыйнай камісіі, у ліцэй паступаюць штораз лепшыя вучні. 60 выпускнікоў пачатковых школ прынесла пасведчанні з вылучэннем (год раней было іх 50). Найлепшае пасведчанне прадставіла Іаанна Янчук з ПШ н-р 2 (дзесяць 6 і пяць 5).

Самую вялікую колькасць балаў, 21, за пасведчанне і экзамены атрымалі: Рыгор Клімук з ПШ н-р 1, Агнешка Сачко з ПШ н-р 6 і Адрыян Вяршко з ПШ н-р 2.

У час экзаменаў па польскай мове найбольшыя веды прадставілі: Мар'юш Чыквін (сын Славаміра), Кацярына Галёнка і Іаанна Янчук. Па матэматыцы шасцёркі атрымалі: Міхась Аўксянцюк і Рыгор Клімук. Адрыян Вяршко — лаўрэат матэматычнага конкурсу „Еўрапейскае кенгуру" быў звольнены з экзамену па матэматыцы.

Усіх кандыдатаў падзялілі на пяць класаў: матэматычна-фізічны, біялагічна-хімічны, гуманістычны і два агульныя класы.

З новага навучальнага года, упершыню ў гісторыі, 66 вучняў (2 аддзелы) пачнуць вучобу ў гімназіі. У 1999/2000 навучальным годзе Комплекс школ з дадатковай беларускай мовай навучання будзе працаваць у 21 аддзеле, на 3 аддзелы больш як у мінулым годзе. Да сустрэчы ў верасні!

**Славамір КУЛІК**

## *Ліпень*

Неяк раз запрасіла Вясна з заморскіх краёў да сябе ў госці пчаліны рой.

Прыляцелі пчолы да Вясны, спадабалася ім тут. Сады цвітуць, прыгожыя кветкі на лугах. Ёсць з чаго пчолам збіраць мёд. І яны збіралі нектар, пылок з кветак і за работаю не згледзелі, як вясна адышла і прыйшло лета.

Аднойчы ранкам вылецелі пчолы ў сад, а там усе кветкі з дрэў асыпаліся. Паляцелі пчолы на лугі, а там пракосы ляжаць. Падаліся на палеткі канюшыны, і тут усё скошана. Зажурыліся пчолы і вярнуліся да сваёй маці.

— Што ж нам рабіць? — бедавалі яны. — Лета стрэсла з садоў усе кветкі, скасіла ўсе краскі на лугах і палях... Як жыць? Вясне новага мёду не хопіць на доўгую зіму!

— Не журыцеся, мае дзеткі! — супакоіла іх пчаліная маці. — Паляцім усім роем да Лета, папросім, можа, яно дасць якую раду...

Знайшлі пчолы Лета на лузе, яно касіла траву.

— Што ж ты нас крыўдзіш, Лета? — загулі пчолы. — Вясна нас запрасіла да сябе, расквеціла сады... А ты ўсе галінкі атрэсла, лугі скасіла, усё высушыла... няўжо ты не ведаеш, што мы без красак і без працы загінем?!

Выслухала Лета пчол, задумалася.

— Не ведала я, што вам патрэбны кветкі, але пачакайце, можа мае месяцы нешта параяць... Эгэгэ-гэ! Дзе вы, мае месяцы? — гукнула Лета.

Выбеглі з зялёнага гаю тры вясёлыя, загарэлыя летнія месяцы, сталі ў рад.

— Мы тут, Лецейка! Што загадаеш? — спыталі.

— Памажыце пчолкам! — папрасіла сваіх месяцаў Лета і расказала ім пра пчаліную скаргу.

— Я толькі магу падоўжыць дзень, каб пчолы маглі больш красак абляцець, — сказаў першы месяц лета.

— А я замест скошаных красак падгадую новыя, — паабяцаў трэці, апошні месяц.

— А што ты маўчыш? — спытала Лета ў сярэдняга месяца.

Сярэдні месяц доўга маўчаў, што яму зрабіць, каб памагчы пчолкам.

— Я расквечу ліпы, яны яшчэ не цвілі! — радасна сказаў ён. — Вось і будзе пчолам удосталь і працы, і мёду.

— Вельмі добра ты прыдумаў! — зарадавалася Лета. — За тое, што ты расквеціш ліпы і дапаможаш пчолкам, ты і будзеш звацца Ліпень.

— Дзякуй табе, Ліпень! Добры Ліпень! Шчодры Ліпень! — загулі пчолы і паляцелі да ліпаў.

І да гэтага часу пчолы дзякуюць Ліпеню.

— Дзя-дзя-куй! Дз-дзякуй! — дзынкаюць яны над ліпамі.

Пастойце хвілінку ў ліпені пад расквечанымі ліпамі, прыслухайцеся, самі пачуеце.

**Клаўдзія КАЛІНА**

*Жывая кніга прыроды*



Нулявы „ц” клас з выхавацелькай Эдытай Казёл.

# Цікавая сустрэча

Як фармаваць у дзяцей дашкольнага ўзросту пачуццё прыналежнасці да рэгіёна, яго традыцый, а таксама талерантнасці да нацыянальных меншасцей пражываючых на Падляшшы?

Каб адказаць на гэтыя складаныя пытанні трэба ў першую чаргу пазнаёміць дзяцей з гісторыяй нашага рэгіёна, а таксама з культурай нацыянальных меншасцей, пражываючых на тэрыторыі паўночна-ўсходняй Польшчы.

Вось таму 17 чэрвеня г.г. у Падставовай школе н-р 32 у Беластоку адбылася сустрэча вядомага беларускага паэта Віктара Шведа з шасцігодкамі, якія вучацца ў нулявых класах гэтай школы, з мэтай іх азнаямлення з культурай беларускай нацыянальнай меншасці. Госця ад імя ўласнага, настаўнікаў і дзяцей сардэчна прывітала дырэктар школы мгр Галена Русіловіч. У сустрэчы прынялі ўдзел чатыры нулявыя класы з іх выхавацелькамі: мгр Эдытай Казёл — ініцыятарам сустрэчы, Уршуляй Янкоўскай і Ганнай Галінчык.

Сустрэча прайшла ў вельмі прыемнай атмасферы. Дзеці сардэчна прывіталі Віктара Шведа і дэкламавалі яго вершы ў перакладзе на польскую мову. Аня Астравецкая, вучаніца нулявога „ц” класа выступіла з вершам паэта „Чаму клас наш нулявы?” на беларускай мове.

Віктар Швед расказаў дзецям аб сабе, аб сваім дзяцінстве, аб прыгодах звязаных з навукай у школе і аб паэтычнай творчасці, якая была асноўнай тэмай сустрэчы. Прачытаў ён таксама шмат вершаў для дзяцей ва ўласным перакладзе на польскую мову, выклікаючы іх гумарыстычным зместам атмасферу радасці і зацікаўлення.

Паэт завязаў непасрэдны, сардэчны кантакт з дзяцьмі так, што пытанням да яго не было канца. Пераважная іх колькасць датычыла пачаткаў яго творчасці: адкуль бярэ ён тэмы вершаў, чаму стаў пісьменнікам, колькі меў гадоў як напісаў першы верш, які быў яго загаловак, чаму піша для дзяцей, ці мае свой улюбёны верш, ці напіша верш спецыяльна для іх?

Віктар Швед, развітваючыся з дзяцьмі, абяцаў сустрэцца з імі ў новым навучальным годзе. Дзеці адорылі госця букетам кветак а таксама самастойна выкананымі малюнкамі да паасобных вершаў паэта, жадаючы яму адначасова многіх творчых задумаў і поспехаў у далейшай літаратурнай працы.

**Эдыта КАЗЁЛ**


Ілюстрацыю да верша Віктара Шведа „Вада з млына” намалявала Агнешка Казёл.

# Лянота

**Частка 2**

Назаўтра Алік зарабіў чарговую двойку па мове. На пераменцы сябры напалі на яго:

— Дакуль гэта будзе, Алік? Ты ганьбіш нас!

Узлаваўся Алік на сяброў. Узяў з партфеля пенал, зайшоў у цёмны куток калідора ды прашаптаў:

— Лянота, Лянота, нагані на чацвёрты „Б” клас дрымоту.

— Добра. Будзе зроблена, як ты пажадаў, — прапішчаў знаёмы голас з пенала.

Празвінеў званок.

Алік вярнуўся ў клас. Бачыць — усе яго сябры сядзяць за партамі і пазяхаюць. Ды так, што аж сківіцы трашчаць. А іншыя ўжо спяць.

Алік сеў за сваю парту і цікуе, што будзе далей.

У клас увайшла настаўніца Ганна Іванаўна.

— Што гэта? — здзівілася яна. — Чаму вы пазяхаеце?

— Спаць хочацца, — адказалі тыя, хто яшчэ не заснуў.

— А што ж вы ўночы рабілі?

— Спалі...

Пакуль настаўніца распытвалася, заснулі і ўсе астатнія вучні чацвёртага „Б” класа.

Настаўніца прысела за сталом, дастала класны журнал.

Але тут на яе напала такая дрымота, што яна адразу асунулася на спінку крэсла і соладка захрапла.

Алік узрадаваўся: „Малайчына Лянота! Цяпер урока не будзе і новай двойкі я не зараблю”. Ён дастаў з партфеля кніжку „Прыгоды Мюнхгаўзена”, усміхнуўся сам сабе і пачаў чытаць.

Кончыўся ўрок. На калідоры зазвінеў званок. І клас заварушыўся.

Першай прачнулася настаўніца Ганна Іванаўна. „Ай-яй, — спалохалася яна. — Гэта ж, мусіць, я незнарок задрамала на ўроку”. І, моцна засаромеўшыся, выйшла з класа.

Услед за ёю пабеглі і вучні.

***(працяг будзе)***

**Алесь Якімовіч**

## Вершы Віктара Шведа

### Я не магу глытаць жалеза

Да лекара прыйшла бабуля з унукам,
Лекар бабулі прыпісаў жалеза.
Бабуля раскладае з жаху рукі:
— Гэта мяне звядзе ўжо да зарэзу.

Гэта ж мая ўжо пэўна будзе згуба,
Як мне глытаць паскудзіну такую.
Ужо мае слабыя надта зубы,
Хлябок святы жаваць ледзьве магу я.

### Знаходлівасць

Настаўнік падаў дзецям
Знаходлівасці прыклад:
— Хто раз хоць апячэцца —
Агню баяцца звыклы.

Прыклад такі праз хвілю
Падаў дасціпны Віця:
— Каго ўжо раз памылі, —
Той вады баіцца.

# Дні Бельска-Падляшскага

У суботу 5 чэрвеня г.г. мы ўсёй сям'ёй пайшлі ў наш бельскі парк, дзе адбываўся фэст з нагоды Дзён Бельска-Падляшскага. Там было многа людзей. На сцэне адбываўся якраз спектакль для дзяцей „Свет Вясёлай Чараўніцы”. Былі таксама конкурсы для дзяцей. Потым выступіў беларускі калектыў „Прымакі”. Спяваў ён песні: „Ой, смэрэко”, „Цыганка”, „У суботу Янка”, „Ой, кума”, „Ляціць воран”, „Братка беларус”, „Васількі”, „Арлы”, „Забава” і „Касіў Ясь”. Якраз гэты калектыў найбольш мне спадабаўся. Познім вечарам над Бельскам ззялі каляровыя феерверкі. Я аглядала іх са сваёй хаты. Яны мне вельмі падабаліся. Першы раз у сваім жыцці бачыла так незвычайнае відовішча. Буду з нецярплівасцю чакаць чарговых Дзён Бельска, каб зноў паглядзець на гэтыя цудоўныя феерверкі.

**Аня РУТЧУК, кл. IV „ц”**
**ПШ н-р 3 у Бельску-Падляшскім**

# Папраўка

У артыкуле Міхала Мінцэвіча „Канец школьнага года ў Орлі” („Ніва” н-р 27) дапушчана істотная памылка. Павінна быць: „З Дубіч-Царкоўных (гміны) дойдзе 15 гімназістаў — 10 з самых Дубіч і 5 са Старога Корніна (а не 108 як мы напісалі).

У чытачоў і аўтара допісу просім прабачэння.

# Польска-беларуская крыжаванка № 29

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Koryto / Posag | | ▼ | Stragan | ▼ | Niewolnik / Car | | Rodzina | Jaryło | Mnich | Jak |
| Pałac | ▼ | | ▼ | | ▼ | Krzak | | ▼ | ▼ | ▼ |
| | | | | | | ▼ | Rak / Pokój | | | |
| Parobek / Ser | | | | Rumun | | | ▼ | | | 📖 |
| | | | | | Siła | | | | | 📖 |
| Silnik, motor | | | | Strzecha | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 25:** Школа, лужынка, жук, зона, урад, атам. Вуж, жур, лыка, шкло, каса, акот, грам.

# Агляд помнікаў культуры



Старажытная сінагога ў Орлі — высокі мураваны будынак XVI стагоддзя. Таўшчыня яе сцен дасягае паўтара метра. Пасля апошняй вайны будынак выкарыстоўваўся ў якасці склада. За гэты час ён моцна разбурыўся. У канцы 1980-х гадоў на сродкі Ваяводскага рэстаўратара помнікаў і Ваяводскага фонду культуры праводзіўся капітальны рамонт сінагогі — былі адноўлены дах, два бакавыя бабінцы, зроблены былі каналы для цэнтральнага ацяплення, устаноўлены медныя сцёкавыя трубы і новая сталярка.

У 1990-х гадах Управа гміны не пакарысталася магчымасцю перанясць гэты архітэктурны аб'ект на сваю ўласнасць. Далей застаецца ён у распараджэнні дзяржавы, хаця адміністрue ім мясцовы самаўрад. Але замест прызначыць гэты будынак для культурных мэтаў, гміна далей выкарыстоўвае яго ў якасці склада, а на пляцы перад сінагогай стаіць бетонамяшалка і ляжаць бетонныя вырабы (фота 1).

17 чэрвеня ў выніку майго хадайніцтва Орлю наведалі працаўнікі Ваяводскай службы аховы помнікаў і Бельскага старства. У прысутнасці гмінных чыноўнікаў правялі яны агляд будынка сінагогі. І хаця гміна была папярэджана аб візіце, пляц далей быў завалены бетоннымі матэрыяламі. Сакратар Гміннай управы ў прысутнасці прадстаўнікоў ваяводства і павета забавязаўся спыніць вытворчасць бетонных матэрыялаў на пляцы сінагогі да 22 чэрвеня г.г. На жаль, слова не стрымаў.

У ходзе агляду расказаў я пра гісторыю сінагогі, паказаў шматлікія фатаграфіі — архіўныя і сучасныя. Цяперашні стан будынка, хаця нядаўна праводзіўся рамонт — жахлівы. На даху няма многіх чарапіц, хаця запасныя стаяць у сярэдзіне будынка. Цераз пашкоджаныя сцёкавыя трубы вада ліецца па сценах (фота 2), страшыць не дакончаная агароджа пляца вакол сінагогі. Пасля ўдзельнікі агляду пераехалі на кіркут — яўрэйскі могільнік — хаця не занесены ён у спіс помнікаў мінуўшчыны. Да сённяшняга дня захавалася на ім 36 каменных і некалькі бетонных надмагільных помнікаў.

На заканчэнне агляду ва Управе гміны састаўлена была службовая нататка, у якой гміна абавязалася вызначыць граніцу дарогі каля могільніка і ўстанавіць часовую драўляную агароджу вакол кіркута.



Пасля агляду сітуацыя помнікаў яўрэйскай культуры ў Орлі не памянялася. Аднак я вырашыў курыраваць гэтую справу. Неўзабаве сам пачну рэстаўраваць старыя надмагільныя помнікі. Дапамогу ў адчытанні надпісаў на іх абяцалі спецыялісты з Варшавы.

**Міхал Мінцэвіч**
*Фота аўтара*

# Будаўнічыя працы ў Музеі



*Ян Ляшчук і Раман Скепка пры ўкладцы грэсу.*

— Прэзідыум Грамадскага камітэта пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры вырашыў, што трэба будзе канчаць будынкі ўсярэдзіне гаспадарчым спосабам і пачалі мы працы ад падлог, — кажа намеснік старшыні Камітэта Ян Хіліманюк, які кіруе ўсімі працамі. — За грошы ад продажу дубовых фрэзаў на паркет і за нашыя ашчаднасці ад арэнды памяшканняў купілі мы грэс (від плітак), якім мы выкладзілі падлогу.

Зараз у ва ўсіх выставачных залах паложаны грэс, зробленае і працавала ўжо зімою цэнтральнае ацяпленне, уся электраўстаноўка падрыхтавана да мантажу лямпаў і ўсюды паложаны тынкі.

— Апрача складчын членаў Камітэта пабудовы і ахвяраванняў фізічных асоб з Польшчы і з-за мяжы не атрымалі мы ніякіх датацый. Сродкі на ўтрыманне будынкаў і на штаты для працаўнікоў бярэм у асноўным з арэнды памяшканняў. Найбольшы даход у нас ад Будаўнічага прадпрыемства „Унібуд" з Бельска-Падляшскага, якое выкарыстоўвае нашыя памяшканні на магазін будаўнічых матэрыялаў, — адзначае Ян Хіліманюк. — Маючы на ўвазе невялікія сродкі, не прымаем на працу новых асоб, а на штатах працуе ў нас зараз толькі сем чалавек: бухгалтар, дзве асобы, якія вядуць усе адміністрацыйна-фінансавыя працы і абслугоўваюць кіно, кладаўшчык, тэхнік, прыбіральшчыца і на паўстаўкі бібліятэкар. Я, як намеснік старшыні, працую на грамадскіх пачатках, бясплатна, а асобы, якія вядуць дадаткова кіно — фінансуюцца яшчэ магістратам. Усе гэтыя штаты неабходныя, каб далей весці пабудову і культурна-асветную дзейнасць.

Працаўнікі музея самі палажылі грэс у пяці залах на плошчы 650 м$^2$, памалявалі адну залу і... спынілі будаўнічыя працы.

— Спынілі мы маляванне выставачных залаў з-за недахопу фінансавых сродкаў. Грэс у першай зале клалі нашы працаўнікі Ян Ляшчук і Раман Скепка супольна з Янам Петручуком, а ўва ўсіх апошніх клалі за дадатковай платай самі, што дало нам ашчаднасць каля пяці тысяч злотых. Адну залу падрыхтаваў да карыстання Зэнобіюш Галёнка, які яе цяпер і арандуе. Каб можна было размясціць экспанаты, трэба яшчэ купіць розныя лямпы, але асвятленне адной залы згодна з планамі каштаваць будзе каля 15 тыс. зл. і гэтага за свае грошы не зробім. Трэба таксама класці на лесвіцах мармур і граніт, але да гэтай працы трэба будзе ўжо наняць каменшчыкаў. Сваіх сродкаў не хопіць таксама на тынкі звонку, даезды ці агароджы, — працягвае мой суразмоўца. — Экспанаты надалей мы збіраем і ў канцы верасня г.г. на падставе праекта экспазіцыі, апрацаванага мастаком з Беларусі Эдуардам Агуновічам, плануем распачаць арганізацыю выставак, паказаць першыя нашы экспанаты. Калі б нейкія асобы маглі падарыць нам экспанаты бытавога, культурнага і рэлігійнага жыцця беларусаў, што пражывалі на нашых землях, былі б мы вельмі ўдзячны.

**Аляксей Мароз**
*Фота аўтара*

# Змены ў Гайнаўскім белліцэі

Уступныя экзамены ў белліцэй, якія праходзілі ад 28 да 30 чэрвеня 1999 года, звязаны былі з пераўтварэннем яго ў Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы. 21 чэрвеня конкурсная камісія, створаная Радай павета, выбрала на пасаду дырэктара Комплекса цяперашняга дырэктара белліцэя Яўгена Сачко. У сувязі з арганізацыйнымі зменамі колькасць аддзелаў у школе павялічыцца з 18 да 21. Апрача 154 вучняў, якія паспяхова здалі экзамены ў ліцэй, 66 кандыдатаў паступіла ў гімназію.

— У гэтым годзе адкрыты будуць два гімназічныя класы, у якія на падставе прашэнняў бацькоў і без экзаменаў прымем па 33 асобы. Пісьмовыя экзамены ў ліцэй — тэсты па польскай мове і матэматыцы — вучні здалі ў гэтым годзе добра. Усе вытрымалі пісьмовыя экзамены па польскай мове, чаго раней у нас не было, а толькі тры асобы не справіліся з пісьмовымі экзаменамі па матэматыцы, але паправілі ацэнкі вусна, — кажа дырэктар Яўген Сачко. — Раней планавалі мы прыняць 120 вучняў і стварыць чатыры аддзелы першага класа, але вырашылі прыняць усіх, якія здадуць экзамены і таму адчынім для паступаючых пяты аддзел. Аднак да вучобы на адну змену патрэбныя дадатковыя школьныя залы і плануем у памяшканне, што каля спартыўнай залы, перанесці бібліятэку і чытальню. Да працы з вучнямі прыстасоўваць будзем таксама залы, у якіх настаўнікі трымалі свае дапаможнікі. У меншых памяшканнях будзем вучыць замежным мовам у групах. Хочам, каб усе ахвотныя вучыцца беларускай мове маглі і ў будучыні паступаць у нашу гімназію і таму плануем пабольшыць колькасць аддзелаў да 23. Ад верасня думаем прыняць на працу новых настаўнікаў замежных моў і фізкультуры.

Вядома ўжо, што на працягу тыдня вучні будуць вучыцца 4 гадзіны беларускай мове ў ліцэі і 3 гадзіны ў гімназіі. У першым класе гімназіі можна будзе карыстацца падручнікамі сёмага класа падставовай школы, а праграмы навучання настаўнікі беларускай мовы апрацоўваць будуць індывідуальна.

— Ужо ўсе настаўнікі выбралі праграмы навучання, а ў верасні будуць і падручнікі ў гімназіі, — гаворыць дырэктар Яўген Сачко. — Плануем увесці ў кожны клас па дзве гадзіны рэгіянальнай адукацыі, у час якой будзем вучыць геаграфіі, прыродзе, гісторыі, традыцыям і культуры нашага рэгіёна. Заняткі гэтыя за адпаведнай платай будуць маглі весці людзі звонку: пісьменнікі, гісторыкі ці працаўнікі культуры. Карыстаючыся праграмай Міністэрства нацыянальнай адукацыі „Камп'ютэр у кожнай гімназіі да 2000 года", куратар і метадыст зацвердзілі ўжо пастаўку ў школу дзесяці камп'ютэрных камплектаў і падключэнне іх да інтэрнэта. Улады павета абавязаны паставіць мэблю для камп'ютэраў і фінансаваць падрыхтовачныя курсы па інфарматыцы для настаўнікаў.

**Аляксей Мароз**

# Жэньшэнь ратуе нацыю



Ірына Віяленцій паявілася на канферэнцыі „Жанчына. Планета. Будучыня" як стаяла — ад сябе, з плантацыі, беларуская ў мілавідным выглядзе і мове. Яна была адзінай асобай у той дзень, якая прамовіла па-беларуску, дый не з лісточка. Бо гаварыла, памаленьку, з развагай, пра сваё — пра тое, як гадуе расліны, якія могуць уратаваць здароўе нацыі, на якую наваліўся Чарнобыль і іншыя — старыя і новыя — беды.

— Гэта бяда ў нашай рэспубліцы. Нам трэба навучыцца жыць. Не толькі ў „зоне" — у Беларусі няма чыстай зоны! — расказвае спадарыня Ірына. — У мяне ў час чарнобыльскага выбуху на балконе віселa памытае бялле. Хмара апусцілася над Мінскам, тое бяллё колер памяняла...

Ужо ў 1986 годзе ў нас была заснавана буйнейшая ў Еўропе плантацыя жэньшэню. Некалькі гадоў запар мы атрымоўвалі па дзве з паловай тоны сухога кораня. Мне здаецца, што ні наша насельніцтва, ні ўрад, ні ўрачы не ўяўляюць, што гэта такое. Як гэта можа быць, каб радавы чалавек не мог у Беларусі купіць настойку жэньшэню! Мы зрабілі вялікую работу ў Беларусі. Я ніколі не траціла часу — калі ехала ў аўтобусе ці цягніку, па мікрафоне чытала лекцыі як ратавацца, чым лячыцца. Нам замала пра гэта гаворыць. Трэба было адразу, як толькі ўзарваўся Чарнобыль, гаварыць пра тое, што рабіць, каб ратавацца! А ўжо даказана, што **жэньшэнь выводзіць усе радыенукліды**, у тым ліку і стронцый! У нас праводзілі доследы інстытуты радыялогіі беларускі і англійскі, правяралася гэта і ў Швейцарыі, і ў Германіі. Усюды адназначна кажуць, што беларускі жэньшэнь вельмі добры, вельмі якасны і яго трэба ўжываць. Апрача жэньшэню ў нас на плантацыі расце болей за 200 відаў розных раслін, з іх вельмі шмат рэдкіх, занесеных у Чырвоную кнігу, моцна дзейнічаючых, прывезеных з Далёкага Усходу.

Наведваюць нас і ўлады. Будучы прэм'ерам Кебіч таксама быў, паглядзеў плантацыю і кажа майму мужу-аграному: „Слухайце, а нашто вам гэта ўсё?" Гэта было месяц да развалу Савецкага Саюза. А мой муж яму адказаў: „А вось аддзеліцца Беларусь ад Савецкага Саюза, а ў нас застанецца кусочак сібірскай тайгі".

Мой муж у 1995 годзе пайшоў з жыцця. На тое, што ён рабіў, не было запатрабавання. Гэта адазвалася на яго здароўі. Пасля гэтага я павяла адна нашу справу.

Мы перарабілі вялікую работу з медыцынскім інстытутам і перапрацоўчымі заводамі і цяпер у Беларсі выпушчаны тры таблеткі на аснове жэньшэню і эхінацэі. Праводзяцца клінічныя доследы. У мінулым годзе за плантацыю была прысуджана нам прэмія Генры Форда.

Пачынаючы з мінулага года перадаем расліны (ну, можа за нейкія грошы) школам, санаторыям, дамам-інтэрнатам. Магу аказаць усякую кваліфікаваную дапамогу па вырошчванні раслін. Пакуль па ўсёй Беларусі. Была задума майго мужа раздаць расліны, самыя цэнныя, у манастыры. Адправілі мы ў гэтым годзе больш 60 відаў раслін у Жыровіцкі Свята-Успенскі і Полацкі манастыры. Што не захаваецца ў плантацыі, можа захавацца ў манастыры. Яны заўсёды з'яўляліся захоўнікамі ўсяго рэдкага, незвычайнага...

**Запісала Міра Лукша**

Адрас плантацыі:
Беларусь, 223060,
Мінская вобл., Мінскі раён,
п/а Трасцянец,
Саўгас „Мінская гароднінная ф-ка"
Віяленцій Ірыне
Тэл. (з Польшчы) працоўны: (0-0375-172)-44-52-62, хатні: (0-0375-172)-44-50-73.

# Чалавек і натура

Лес — бясцэнны рэсурс натуры. Ахоўвае ваду і паветра, служыць чалавеку месцам адпачынку. Лес — дабро народа.

**Наш лес**

Амаль пяцьдзесят працэнтаў тэрыторыі Чаромхаўскай гміны складаюць лясы. Уласнікамі іх з'яўляюцца сяляне і дзяржава. Апеку над дзяржаўнымі лясамі вядуць працаўнікі двух лясніцтваў: у Чаромсе-Пасёлку і Вульцы-Тэрахоўскай.

У чаромхаўскіх лясах у асноўным расце сасна, елка, бяроза і дуб. Аднак можна знайсці яшчэ клён, ліпу, граб, вяз ці лістоўніцу. З кустоў сустрэнем тут шыпшыну, цярноўнік, ружу і айву. Водзяцца тут ласі, алені, дзікі, сарны, лісы і зайцы. Са шматлікай сям'і крылатых можна вылучыць рэдкага ў нас цецерука.

У гэтым годзе лясніцтва засадзіла лесам больш сямідзесяці гектараў неўраджайных зямель. У мінулым у лясніцтве Чаромха Сельскагаспадарчая акадэмія з Варшавы вяла доследныя палеткі. У сямідзесятыя гады трапіла да нас амерыканская чарамшына, якой нельга зараз пазбыцца, паколькі куст гэты надта плённа разводзіцца. Апошнім часам леснікі вяртаюцца да айчынных парод дрэў і кустоў і таму доследныя палеткі сталі непрыдатнымі, хоць бы з-за коштаў іхняга ўтрымання.

**Лясная гаспадарка**

Паколькі ў прыватных лясах вядзецца некантраляваная гаспадарка і слабейшы прырост дрэў, дык у дзяржаўных усё адбываецца пад кантролем. Для іх планы дзейнасці састаўляюць працаўнікі Міністэрства скарбу г.зв. таксатары, а кансультуюцца яны з адказнымі чыноўнікамі на месцы. План арганізацыі лясной гаспадаркі састаўляецца раз на дзесяць гадоў для кожнага лясніцтва асобна. У ім дэталёва прадугледжаны працы па лесанасаджэннях, высечцы, добраўпарадкаванні лясной плошчы і здабычы сыравіны. План таксама назначае паляўнічым колькасць звярыны да адстрэлу.

Трэба адзначыць, што таксатары выязджаюць у паасобныя лясніцтвы для правядзення кантролю выканання планаў.

**Гуртох паляўнічых**

Чаромхаўская арганізацыя паляўнічых налічвае 63 члены і сваёй дзейнасцю займае чатыры лясныя акругі плошчаю 24 тыс. гектараў. Дзве з іх знаходзяцца на тэрыторыі сваёй гміны і па адной у Нурэцкай і Мельніцкай гмінах. На аднаго паляўнічага прыпадае 350 гектараў лясной плошчы. Гуртох арандуе сенажаці і палі. Засявае іх збожжам, садзіць бульбу і падкормлівае зімою звярыну.

Неабходныя для гэтай мэты фінансавыя сродкі паходзяць з членскіх узносаў і прададзенай з адстрэлу звярыны. Гэтай справай займаюцца селекцыянеры, якіх у гуртку каля сарака асоб (селекцыянер — вышэйшы па чыне за паляўнічага).

За апошні перыяд гуртох паляўнічых вымушаны быў выплаціць жыхарам гміны 1 600 зл. кампенсацыі за шкоды ўчыненыя лясной звярынай. Трэба адзначыць, што гуртох паляўнічых можа быць囲 аштрафаваны надляснічым за невыкананне ў даным годзе плана адстрэлу звярыны.

**Летам у лесе**

Самым цудоўным месцам адпачынку ў летнюю пару з'яўляецца лес. Тут можна пакарыстацца духмяным пахам жывіцы, пазбіраць ягад ды грыбоў, паслухаць спеву птушак, падыхаць свежым паветрам. І гэтага якраз зайздросцяць нам гараджане.

Штогод у чаромхаўскія лясы прыязджаюць многія аўтобусныя экскурсіі з цэнтральнай Польшчы. Мясцовыя ўласнікі лесу неакуратна ставяцца да экскурсантаў, аднак пакуль што публічна свайго незадавальнення не выказваюць. Аднак усяго можна спадзявацца пасля ўвядзення закону аб прыватызацыі і рэпрыватызацыі лясоў.

**Сігнал на трывогу**

Супраць такога закону пачалі выступаць экалагічныя арганізацыі, Міністэрства аховы асяроддзя, леснікі, прыродазнаўцы, паляўнічыя ды многія земляробы. А пратэсты пачуліся ў той час, калі парламентары кіруючай кааліцыі пачалі дабівацца ў парламенце закону аб рэпрыватызацыі лясоў. Праўленне аддзела Таварыства інжынераў і тэхнікаў лясніцтва і драўнінай прамысловасці ў Беластоку выступіла з заклікам да грамадства, у якім чытаем: „Lasy nie są towarem. Są bezcennym zasobem przyrody ochraniającym powietrze, którym oddychacie i wodę, którą pijecie. Są miejscem wypoczynku. (...) Lasy są DOBREM narodu i muszą pozostawać pod jego kontrolą".

Вышэйзгаданае таварыства прапануе правесці рэферэндум у справе рэпрыватызацыі лясоў. Дзеля гэтага рашыла сабраць 500 тыс. подпісаў сярод насельніцтва, каб прад'явіць парламенту сваю прапанову.

**Уладзімір Сідарук**

# Дыялог

Штосьці пачало псавацца маё здароўе — падціскала сэрца. Шукаючы спагады ў бядзе, я пахваліўся гэтым перад жонкай. Думаў, што ўсё ж такі весялей будзе калектыўна бедаваць над маім здароўем. Каб толькі не напалохаць яе замоцна!.. Яна ж таксама лечыць сваё сэрца. Але непатрэбна баяўся за яе. Яна, выслухаўшы мяне, не расплакалася і не заламала сваіх спрацаваных ручак у горы, толькі спакойна і рашуча сказала:

— А чаго ж ты хочаш: піўцо папіваеш, цыгарэткі смокчаш, ад кілішка не адмаўляешся..., а і пра ўзрост свой не забывайся... І хочаш, каб нічога не забалела? Як яно дасюль і так, скажы, у цябе трымалася? Я намнога маладзейшая за цябе, жыла ўвесь час прыстойна, пабожаму і колькі часу лечуся ўжо? Цяпер хоць больш спачуваць мне будзеш...

— Канешне, буду, бо і ёсць у чым. Ты ж вось як перанялася маім здароўем і як умела, можна сказаць, прафесіянальна падтрымала мяне на духу. Пасля такой падтрымкі ніяк ужо не прыходзіцца здзіўляцца, што многія мілаcэрных сясцёр называюць памочніцамі смерці.

— Ад калі ты такі далікатны зрабіўся? Гэта ж толькі ўступ да галоўнай гаворкі. Вось яна: заўтра чысценька памыйся, пераадзенься і тэпай да пані доктар С. Толькі абавязкова раскажы ёй і пра піўцо, і пра папяросы, і пра чарку, ад якой ты ніяк адмовіцца не хочаш...

— А чаму менавіта да доктар С., у нас жа многія лекары прымаюць?

— А таму, што, па-першае, яна вельмі добры лекар, і па-другое, на такіх яна цвёрдую руку мае. Яна хутка выб'е табе з галавы і тытунь, і піўцо, і гарэлачку. І хутка пераканае, што ў нашых адвечных сварках на гэтую тэму, рацыю маю я.

— Дык што ж мне пасля гэтага ад жыцця астанецца?

— Аб гэтым не бядуй. Маючы столькі вольнага часу, сам будзеш абрабляць наш участак. Гэта крыху часу зойме. Поўнасцю пераймеш кухню і будзеш рыхтаваць нам смачныя сняданкі, абеды і вячэры. Будзеш займацца пакупкамі і трымаць парадак у хаце. А і можна, канешне, час ад часу, дзесьці дарабіць пару златовак да сямейнага бюджэту, многія пенсіянеры так робяць...

— Сардэчна дзякую за давер і такія стройныя планы наконт маёй асобы, хаця яны і не зусім супадаюць з маімі. „Рад старацца" — як царскія вайскоўцы казалі. Цяпер, хіба, не варта і да лекара ісці, бо ў сваіх планах ты ні месца, ні часу на мае хваробы ці недамаганні не пакідаеш.

— Чаму не варта? Схадзі, абавязкова схадзі.

І я пайшоў. Чакаў у прыёмнай нядоўга, суровая пані лекар прыняла мяне хутка і надзвычай сардэчна, культурна апукала-абстукала, абмерыла ды туды-сюды заглянула. Я так асмялеў у яе, што рызыкнуў прызнацца, што часамі і вып'ю кілішак-другі, для апетыту — дадаў віната. І не каюся, што прызнаўся.

Пані доктар, пачуўшы гэта, не толькі не накрычала на мяне, як гэтага хацелася маёй жонцы, і не выгнала з кабінета, а наадварот: сказала што яна верыць у тое, што я вяду сваё жыццё гігіенічна, і ў такім выпадку крыху выпіць, напрыклад, грамулек з трыццаць гарэлкі штодзённа не толькі не зашкодзіць здароўю, а і паможа. Калі віно, то крыху большую мерку.

Да раўнавагі прыпісала яшчэ адно і неалкагольнае лякарства...

Вярнуўся я дадому падбадзёраны, а жонка адразу з іранічнымі пытаннямі:

— Быў у пані доктар?

— А як жа!

— Прызнаўся?

— А як жа!

— Ну, і што?!

— А нічога, пані доктар пахваліла мяне за здаровы лад жыцця. І сказала, што калі хачу быць здаровым, то павінен не час ад часу, як рабіў дасюль, а рэгулярна і штодзённа па грамулек пяцьдзесят добрай гарэлкі выпіваць, — крышку схлусіў я. — Каньяк таксама можа быць!

— Не веру!!! І такога лячэння ў маёй хаце не дазволю.

— Я так і знаў, што на маё здароўе табе напляваць...

**Васіль Сакоўскі**

# Тады на вёсцы была нэндза...


*Арсень Лушч пры церніцы, якая гадамі служыла ў гаспадарцы для апрацоўкі лёну.*

**Пра бежанства і жыццё пры санацыі расказвае Арсень ЛУШЧ — 86-гадовы пенсіянер з Кашалёў Арлянскай гміны.**

— Наша сям'я (баба Яўдося, дзядзька Дзямян, цётка Тацціяна, маці Юстына, трохгадовая сястра і я — двухгадовы малеча) падалася ў бежанства ў жніўні 1915 года. Мой бацька Міхал тады быў ужо на фронце. Выехалі мы на фурманцы. У Баранавічах пакінулі каня і воз (далі нам за гэта квітанцыю) і пераселіся на цягнік. Завезлі нас у Растоўна-Доне. Маці хадзіла жабраваць, каб здабываць кавалак хлеба, а нас, малечаў, пільнавала баба Яўдося. Маці найчасцей прыносіла чэрствы чорны хлеб.

На радзіму вярнуліся мы ў 1918 годзе, але не ўсе. Цётка Тацціяна выйшла там замуж за Антона Звістова. У Кашалі дабраліся мы пасля Пакровы. На вясковай вуліцы раслі дрэвы-самасейкі і высокая крапіва, праз якую пралягала сцежка. У вёсцы ацалела толькі некалькі хатаў, там дзе цяпер жывуць Майстровіч, Серафім і Гаворка. Мы сталі жыць у Корзуна на „Баярах".

З Расіі маці прывезла мяшочак пшаніцы, памяняла яе ў Антона Хурсы на жыта, якое восеннюо пасеяла. На другі год было ўжо ў нас сваё збожжа. А зімою маці хадзіла жабраваць, бо ў хаце было двое малых дзетак, якіх трэба было пракарміць. Тады жабравалі многія жанчыны.

У 1919 годзе дадому вярнуўся бацька. На фронце трапіў ён у плен да аўстрыйцаў. Другі брат бацькі, Васіль, быў у няволі ў немцаў і вярнуўся ў 1920 годзе. Пабачыўшы нашае гаротнае тут жыццё, Васіль вырашыў паехаць да сястры Тацціяны ў Растоў. Там яго мабілізавалі ў Чырвоную Армію і незадоўга апынуўся з салдатамі ў Бельску. Камандзір дазволіў яму наведаць сям'ю. Прыехаў ён у Кашалі на белым кані. Бацька намаўляў брата застацца, але ён назаўтра вярнуўся ў сваю часць. У Расіі ён ажаніўся, меў дачку, якая пасля ягонай смерці жыла пры цётцы Тацціяне. У Кашалі толькі раз напісаў сын Тацціяны і больш вестак ад іх не было.

Падчас I сусветнай вайны ў арлянскай царкве немцы трымалі збожжа і бульбу. Пасля іх адыходу людзі пакарысталіся назапашаным дабром. Потым прыйшла гуманітарная дапамога з Амерыкі (кансервы, гарох), якую размяркоўваў солтыс.

У 1921 г. пайшоў я ў школу. Гэты будынак яшчэ сёння стаіць пры новай школе. Усе дзеці звычайна хадзілі басанож. Да школы бацька зрабіў мне шнураваныя лапці. Калі настаўнік Врублеўскі пабачыў іх, жахнуўся і падараваў мне сапраўдныя боты. Я ад радасці зняў лапці і з гэтымі ботамі на плячу прыбег боса па снезе дадому.

Кіраўніком школы быў тады Бялецкі, а настаўнікамі працавалі яго жонка, Врублеўскі з жонкай, Марыя Мануўна, Дэмбіцкі, Бельскі, Тачыскі, Крысяк. У школу хадзіў я чатыры гады, але ў пяты клас мяне не перавялі, бо я прапусціў многа ўрокаў. Тады бацьку моцна пабілі коні і мне трэба было яго заступіць на гаспадарцы.

У першым класе не было ў нас ні кніжак, ні сшыткаў. Спачатку пісалі мы на драўляных дошках пры дапамозе „грыфеляў". Потым з'явіліся сшыткі, якія насіў я ў пашытым маці мяшку са шлейкай. Тады на вёсцы была паўсюдная нэндза. Такі быў час. Хлеба ніхто не купляў, хаця ў Яўрэяў былі пякарні. Кожны сам малоў жыта ў жорнах і сам выпякаў. Сёння такога хлеба нават сабака не еў бы, а тады людзі елі.

Цяпер так моцна расхвальваюць санацыю, аднак жыццё ў нас тады было нэндзнае. Такая вось праўда!

**Міхал МІНЦЭВІЧ**
*Фота аўтара*

**— Мая мама жывець побач, на мяжы, але цяпер добра падумаеш, пакуль рушыш з Літвы ў Беларусь, — разважае Леакадзія Мілаш з Вільні.**

# Ехаць з Літвы да сваіх

Якраз 14-16 лютага г.г. літоўскі ўрад увёў такое палажэнне аб пераездзе праз літоўска-беларускую мяжу. Якраз літоўцы адзначалі Дзень незалежнасці. Паехалі людзі на свята, вярталіся — а тут змены. Я паехала да мамы праз два дні пасля таго ўвядзення. І ведаеце, гэта настолькі жахлівае становішча, такое парушэнне правоў чалавека!

Мая мама жывець побач, зараз за мяжой. Нармальна гэта гадзіна язды з Вільні. І многія маюць лецішчы за мяжой, жывуць там бацькі. Многія выходзілі замуж, жаніліся, і зараз тут у Вільні жывуць. Ездзяць памагаць бацькам. І нічога везці з сабой нельга. Нельга перавозіць яйкі, мяса, малочныя прадукты. Літоўцы як бы так абараняюць сваю гаспадарку. Але так не ёсць на самай справе, бо мае знаёмыя, што ездзяць часта ў Польшчу, свабодна прывозяць харчовыя прадукты. Можна параўнаць, як ёсць і там і там на мяжы. Вось ёсць тут такі пункт перасячэння мяжы Катлоўка. Тудою якраз з Вільні ідзець аўтобус некалькі разоў — палацкі, мядзельскі. З памежных вёсак шмат беларусаў жывець у Літве. Зараз у Літве вельмі складанае эканамічнае становішча, і людзі ездзяць часта да бацькоў, дапамагаюць адпаведна, і бацькі нечым стараюцца дапамагчы.

Я пасля таго першага пераезду была настолькі ўзбуджана, што мяне проста трасло. Па першае — высаджвалі ўсіх з аўтобуса. Гэта была якраз вясна, ішоў мокры снег. Выцягнулі мы пашпарты. Сюды едзеш — два штампы, назад — ізноў два. Гэта ўжо старонка. А да бацькоў трэба ж ездзіць дапамагаць кожны тыдзень ці праз тадзень, і адпаведна хутка трэба пашпарт мяняць. Запыталіся мы ў літоўскіх мытнікаў, чаму цяпер іначай чым раней (беларускі бок ставіў штамп грамадзянам Літвы, літоўскі — грамадзянам Беларусі), а яны адказалі, што за гэта атрымліваюць палучкі. А новы пашпарт — 20 долараў. Да таго за візу — 40 долараў. Адстаяць у чарзе сваё трэба.

Недалёка ад мяне ў Вільні памёр стары чалавек. А сын яго жывець у Паставах. Ды нават паслалі тэлеграму, завераную доктарам. Трэба было сыну з тэлеграмай ехаць у Мінск, рабіць візу. І пакуль ён даехаў у Мінск у літоўскую амбасаду, ужо і бацьку пахавалі...

Усё-ўсё з нашых сумак павандравала тады на стол. Нават ад жанчыны, што сядзела з дзіцём, адабралі бутэльку з малаком і загадалі яго выліць вон. Гэта ж як шкада чалавечай працы! Я ўбачыла мужчыну, якому было за 50 гадоў, ён ехаў у аўтобусе і шаптаў, а з вачэй ліліся слёзы. У яго ў кішэні ляжаў быў кавалачак сала. Сказалі яму яго выкінуць на сметнік. Ён тое сала аддаў кіроўцы аўтобуса дальняга маршрута. Загадалі ўсё ж забраць яго і выкінуць у сметніцу. Ён вельмі перажываў: ягоны бацька, якому 82 гады, даў сыну тое што меў. Якое ж гэта прыніжэнне! Я проста не магла вытрымаць, калі мяне пачалі абмацваць! Ад таго часу нічога з сабой не вязу, каб не адчуваць больш такога прыніжэння. Гэта штучнае адрыванне дзяцей ад бацькоў; бо адзін раз праедзеш, а пасля падумаеш ці ўвогуле ехаць. Асабліва каварныя — мытніцы! Маладая мытніца якраз загадала выліць тое малако! Калі мы стаялі (8 гадзін) у чарзе, пад'ехаў мужчына, які працуе ў міліцыі, быў з жонкай і парай дзетак. Ягонай двухгадовай дачушчы было вельмі кепска. Ён падышоў, дастаў пасведчанне, прасіў прапусціць без чаргі з хворым дзіцём (раней з малымі дзецьмі прапускалі без чаргі). Мытнік дазволіў: „Праязджайце", а жанчына: „Не! Калі ў вас малыя дзеці, дык трэба сядзець у хаце!"

Вось здзекуюцца над такімі, а хто кантрабанду правозіць, той і правозіць будзе. Зусім нядаўна ў Вільні па ўсіх кіёсках прадаваўся такі ласьён у бутэлечках, а там быў... спірт з Украіны прывезены беларусамі. Нядаўна ў нас была непрыемнасць у Вільні — расцяклася вадкасць. Былі атручанні, у той дзень эвакуіравалі шмат людзей. Гэта быў свінец расплаўлены з бензінам, вельмі ядавітая сумесь. Яе прадаваў якраз грамадзянін Беларусі. Гэта так непрыемна...

Не ад добрага жыцця гэта людзі робяць. Але павінны мы гаварыць і пра экалогію душы. У першую чаргу трэба ўсвядоміць, адкуль твой род.

Мы ўжо пісалі і звярталіся... Бо тое палажэнне павінна якраз распаўсюджвацца на ўсіх, а церпяць толькі беларусы. Я думаю, што гэта вынік нашага ў Беларусі становішча. У нас вось бачыце — нічога не цэніцца беларускае! Калі б у нас была беларуская краіна, шанавалася наша культура, адпаведна адносіліся б і да людзей.

**Запісала Міра ЛУКША**
*Фота аўтара*


*Перад беларускім храмам — форменны мур перад беларусамі (Полацк, 5 чэрвеня 1999 г.). Другая справа — Леакадзія Мілаш.*

# Сумная з'ява

У артыкуле „Карчавалі і насаджвалі" („Ніва" н-р 26) А. Вярбіцкі піша аб сумным лёсе падляўкоўскай вёскі Новіны. Чытаем: „Калісь ляўкоўцы вырошчвалі хлеб у Новінах, сёння ездзяць у Новіны па грыбы... А людзі і без немца пакідаюць свае вёскі".

Падобны лёс многіх нашых вёсак. Сёння аблагуе зямля, някошаныя лугі зарастаюць лесам, а ўсё таму, што вёскі апусцелі. Калісьці сяляне жылі толькі з зямлі і апрацоўвалі кожны яе кавалак. Горада мужыкі баяліся па прычыне сваёй непісьменнасці, баяліся беспрацоўя. Са свайго кавалка зямлі заўсёды мелі кусок хлеба. Але людзі шукалі лепшага жыцця. Пасля вайны сацыялізм прынёс такую магчымасць. Вясковая моладзь хлынула ў горад, дзе знайшла лягчэйшую працу, сучаснае жыллё і выгоднае жыццё. Выгодна ў горадзе, калі маеш грошы. Тут працуюць адміністрацыйныя ўстановы, школы, шпіталі, паліклінікі, аптэкі, розныя крамы. Усяго гэтага няма ў вёсцы. Вось і выехала вёска ў горад за выгодай. Большасць вяскоўцаў цяпер — пенсіянеры. Жывецца ім спакайней чым у горадзе. Сюды яшчэ не дакацілася вялікая гарадская злачыннасць. На маю думку, шансы развіцця маюць вёскі прыгарадскія і размешчаны блізка гмінных цэнтраў. Аддаленыя будуць гінуць на нашых вачах. З'ява страшна сумная, але праўдзівая.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

# Вызваленне ў ліках

55 гадоў назад закончылася 3-гадовая акупацыя беларускай зямлі гітлераўскімі захопнікамі. Бітва за вызваленне Беларусі была выдатнай старонкай Вялікай Айчыннай вайны. Аперацыя рыхтавалася пад кодавай назвай „Баграціён”.

На абарончай лініі фашысты сканцэнтравалі магутныя сілы: больш чым 1 500 000 салдат, каля 17 000 гармат і мінамётаў, больш чым 1 500 танкаў і самаходных установак, звыш 2 000 самалётаў.

Савецкія войскі значна перавышалі ворага. Яны сканцэнтравалі звыш 2 500 000 людзей, больш 45 000 гармат і мінамётаў, звыш 6 000 танкаў і самаходных артылерыйскіх установак, каля 6 000 баявых самалётаў. Бітва пачалася раніцай 23 чэрвеня 1944 года. У наступленне пайшлі войскі 1-га Прыбалтыйскага фронту генерала Баграмяна, 3-га Беларускага фронту генерала Чарняхоўскага і 2-га Беларускага фронту пад камандаваннем генерала Захарава. На другі дзень да іх далучыўся 1-ы Беларускі фронт маршала Ракасоўскага.

24 чэрвеня нямецкая абарона была прарвана. У выніку імклівага наступлення 26 чэрвеня быў вызвалены Віцебск, 27 — Орша, 28 — Магілёў. 3 ліпеня 1944 г. войскі 1-га і 3-га Беларускіх франтоў вызвалілі сталіцу Беларусі — Мінск.

На ўсход ад Мінска была акружана 105-тысячная групоўка ворага, якая папала ў палон. Усяго было знішчана 30 гітлераўскіх дывізій. Партызанскія злучэнні вызвалілі вакол Мінска некалькі раённых цэнтраў і захапілі ў палон больш чым 6 000 салдат і афіцэраў працівініка. Дзесяткі тысяч партызан уліліся ў рады Чырвонай Арміі.

Наступленне імкліва працягвалася. 4 ліпеня быў вызвалены Полацк, 5 — Маладзечна, 8 — Баранавічы, 14 — Пінск, 16 — Гродна, 27 — Беласток, 28 — Брэст.

**Мікалай ВАРАНЕЦКІ**

# Летні фэст

Лета ў разгары, летнія мерапрыемствы — таксама. Шмат спякотных гадзін правялі жыхары Гайнаўкі ў нядзелю 4 ліпеня ў гарадскім амфітэатры. Завітала сюды Студыя „Лета” Беластоцкага радыё са шматлікімі імпрэзамі і конкурсамі. Мэдыяльны патранат над імі трымаў „Кур'ер паранны”. У ходзе мерапрыемства прэзентаваліся пенсіённае таварыства, бровар і фірма „Руно” з Гайнаўкі — вытворца зёлкаў для купання. Ганаровым госцем арганізатараў імпрэзы, улад горада і Ежы Кучко — найбольш вядомага спартсмена Падляшша 70-80-х гадоў, быў сусветнай славы велагоншчык Рышард Шуркоўскі, які рэкламаваў нядаўна заснаваны Вучнёўскі клуб велагоншчыкаў „Шасцёрка” з Пачатковай школы № 6 у Гайнаўцы.

У ходзе 9-гадзіннага мерапрыемства праз амфітэатр прайшло шмат публікі, прадстаўнікоў улад горада і павета ды спонсараў. На жаль, здарылася электрааварыя і па гэтай прычыне не выйшла друкам другое выданне спецыяльнага нумара „Кур'ера паранага”. На сцэне амфітэатра паказаліся дзеці з Дзяржаўнай музычнай школы з Бельска-Падляшскага, танцавальны калектыў ПШ № 1 з Гайнаўкі, музычныя гурты „Блакітны насарог”, „Святло свечак”, „Бампэрс”, „Жукі”, „Рок-н-рол бэнд”. Сярод удзельнікаў мерапрыемства распаўсюджваўся 5 нумар „Інфармацыйнага бюлетэня Беларуска-народнага выбарчага камітэта”.

Пасля 19-й гадзіны былі аб'яўлены вынікі ўсіх конкурсаў. Галоўную ўзнагароду — веласіпед — атрымаў Лукаш Людвічак. Падчас мерапрыемства згубілася малая Луіза. Вядучым імпрэзу ўдалося адшукаць маму дзяўчынкі. На заканчэнне выступіў калектыў „Жукі” з Познані, пад гукі якога танцавала не толькі моладзь. Аказалася, што шлягеры 60-х гадоў падабаюцца таксама зусім маладым людзям. Для мяне і майго пакалення было гэта цудоўнае падарожжа ў гады маладосці, асабліва калі чатырох выканаўцаў спявалі найбольш вядомыя творы легендарнага калектыву „Бітлз”. Падчас завяршальнай песні „Yesterday” публіка, схапіўшыся за далоні, у якіх гарэлі запальнічкі, калыхалася ў такт музыкі. Некаторым у вачах з'явіліся слёзы.

**Славамір КУЛІК**

# Музейны фонд

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні на пабудову музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак **141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.**

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

4 881. Канстанцін Майсеня (Гайнаўка) .................... 50,00 зл.
4 882. Зоя Жэлязоўская (Антверпен, Бельгія) .................... 300,00 зл.
4 883. Міхал Панфілюк (Нараўка) .................... 50,00 зл.
4 884. Ада Чачуга (Беласток) .................... 20,00 зл.
4 885. Аляксей Мароз (Гайнаўка) .................... 20,00 зл.
4 886. Аляксандр Вярбіцкі (Беласток) .................... 20,00 зл.
4 887. Яўгенія Палоцкая (Беласток) .................... 20,00 зл.
4 888. Віталь Луба (Беласток) .................... 20,00 зл.
4 889. Аляксандр Максімюк (Беласток) .................... 20,00 зл.
4 890. Галіна Рамашка (Беласток) .................... 20,00 зл.
4 891. Марыя Федарук (Беласток) .................... 20,00 зл,
4 892. Міраслава Лукша (Беласток) .................... 20,00 зл.
4 893. Радаслаў Мацievіч (Беласток) .................... 10,00 зл.
4 894. Аляксандр Баршчэўскі (Варшава) .................... 200,00 зл.

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. 682 3016.**

# Абяцаюць ды хвастом прыкрываюцца

Пра недасканаласці рэформы аховы здароўя многія ўжо выказаліся на старонках „Нівы”, напрыклад, Мікалай Лук'янюк у допісе „Абяцанка-цацанка”, які друкаваўся ў 29 нумары ад 18 ліпеня г.г.

Абяцанкі — тэма адвечная (і заўсёды актуальная). Аднак самай „моднай” стала яна ў дзевяностыя гады, а доказам гэтаму могуць быць абяцанні абодвух прэзідэнтаў і многіх палітыкаў. Гэтая хвароба тычыцца таксама Гайнаўскага аддзялення сувязі. Пра тэлефанізацыю вёсак Гайнаўшчыны шумна было ў мінулым годзе. Тэлекамунікацыя пачаткова прапанавала арганізаваць грамадскія камітэты, а калі грамадства на гэта не адгукнулася і з'явілася канкурэнтная фірма Рэтэль, манапалісты збавілі тон і заявілі, што ў першым паўгоддзі 1999 года тэлефоны ў Чаромхаўскай гміне будуць пастаўлены.

Калі я званіў у сакавіку г.г. дырэктару гайнаўскай тэлекамунікацыі, той мне абяцаў, што да чэрвеня буду ўжо мець тэлефон у хаце. Чэрвень мінуў, а тэлефона няма. Мой сябра з Чаромхі на свой кошт паставіў перад хатай два тэлефонныя стаўбы (так дамаўляўся з дырэктарам у Гайнаўцы), бо не было лініі. І тое не памагло. Многія чаромхаўцы пытаюць у мяне пры сустрэчы: што з нашымі тэлефонамі? А я толькі паціскаю плячыма. Зараз магу сказаць апошнюю вестку пачутую ад войта: „Тэлекамунікацыя выйграла ў ліпені аўкцыён на выкананне тэлефанізацыі і абяцае пачаць работы. Да верасня будуць тэлефоны”.

А я стаўлю пытанне:

— У якім годзе?!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Пашкадаваў тэлефона

— Пажарная часць у Орлі ўваходзіць у састаў краёвай сістэмы выратавання і выклікаецца да кожнай акцыі на тэрыторыі Бельскага павета, нягледзячы на пару года і надвор'е. Мы распараджаемся машынай, якой не страшны непраходныя дарогі, — кажа гмінны пажарны камендант Міраслаў Бало.

У апошнюю нядзелю мая на тэрыторыі гміны ўспыхнула сем пажараў. Калі арлянскія пажарнікі прыехалі ў Кназы, там пажар быў ужо амаль патушаны. І раптам да пажарнікаў прыбег чалавек з весткай, што на калёніі загарэлася клуня.

— Прыехалі мы першымі, — расказвае Міраслаў Бало, — а там стаіць жанчына і плача. Мы гаворым, што запозна нас паведамілі, бо клуня ўжо дагарае, а яна стала расказваць, што сусед, у якога ёсць тэлефон, не ўпусціў яе дадому. Аказваецца, што яны калісьці пасварыліся і нават у абліччы такой трагедыі пашкадаваў ён суседцы карыстацца тэлефонам. Жанчыне давялося тры кіламетры бегчы палямі да тэлефона ў вёсцы. Неўзабаве з'явілася каманда з Аўгустова. Калі мы апарожнілі першую бочку, атрымалі загад пераехаць у Вульку-Выганоўскую, бо папсавалася пажарная машына каманды з Рыгораўцаў.

**Міхал МІНЦЭВІЧ**



# ВЕР — НЕ ВЕР

Даражэнькі Астроне! Цэлую ноч мне сніліся дзіўныя сны. Здаецца, што сведчаць яны пра нейкія цяжкасці, якія падсцерагаюць мяне.

Вось быццам бы я знаходзілася ў нейкай вялізнай зале. Гэта ні то тэатр, ні то нейкая канцэртная зала, такая, як у Палацы культуры ў Варшаве. Я шукаю сваё месца, а крэслы стаяць, падзеленыя на сектары, і я ніяк не магу знайсці, дзе я павінна сесці. Людзей каля мяне ніякіх няма. Здалёк бачу, што нейкія гледачы сядзяць у першых радах. Яны вельмі незадаволены, што я прыйшла сюды. Мне крыўдна.

А пасля сніцца мне другі сон. Быццам я знаходжуся на нейкай страсе ў блёку. Але што я там раблю — невядома. Ведаю, што я іду па блёку. А мо ўцякаю ад некага... Іду быццам з аднаго блёку на другі. Паміж імі ёсць праход, гэта быццам шырокая кладка, зробленая з дошак. Я падышла да яе і хацела перастуціць на наступны блёк, але бачу, што яна як бы адсунулася ад мяне, і між мною і кладкай паўстала прорва. Каб увайсці на наступны блёк, мне трэба было б пераскочыць гэту прорву. Мне страшна. Я баюся зрабіць крок.

**РЭНАТА**

Рэната! Сапраўды твой сон сведчыць аб нейкіх непаладках у цябе. Непакой вярэдзіць тваю душу, ды нездарма. Той тэатр сведчыць аб тым, што акружаюць цябе фальшывыя людзі, нядобразычлівыя ў адносінах да цябе. Ты мусіш асцерагацца іх, бо дабра і так не дачакаешся. Зрэшты, тая прорва з другога сну гаворыць нават аб небяспецы, якая табе пагражае. Ты жывеш у пастаянным непакоі, і ён зусім абаснаваны. Варта было б мабілізавацца, накіраваць свае думкі ў іншым напрамку, а што будзе — тое будзе. Тады будзеш думаць.

**АСТРОН**


**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

**Выдавец:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня:** Яўген Мірановіч.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 149.
**Тэл./факс:** (0 85) 743 50 22.
**E-mail:** niwa@kurier-poranny.com

***Zrealizowano przy pomocy finansowej Ministerstwa Kultury i Sztuki.***
**Галоўны рэдактар:** Віталь Луба.
**Сакратар рэдакцыі:** Аляксандр Максімюк.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Ада Чачуга.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.

**Камп'ютэрны набор:** Яўгенія Палоцкая, Марыя Федарук.
**Друкарня:** „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.
Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format). Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

***Prenumerata:***
1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1999 r. upływa 5 września 1999 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. podlaskiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.
2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1999 r. wynosi 15,60 zł.
3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę pocztą zwykłą — 35,55; pocztą lotniczą Europa — 44,15; Ameryka Płn., Płd., Środk., Afryka, Azja, Australia — 61,15. Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK S.A. XIII Oddział Warszawa 11101053-16551-2700-1-67.
4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,30 zł, a kwartalnie — 29,90 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

# Ніўка




Мал. Алеся СУРАВА („Замалёўкі з Беларускай «натуры»")

## Палемістам

Адчапіцеся ад „Нівы",
хто зайздросны і лянівы
(той, хто тэкстаў не чытае
нат сваіх; разумных лае).
Нам абрыдлі брэх і сварка.
Нас чакае гаспадарка.
Памяць добрая ў старэчаў.
Добра помнім усе сустрэчы.
Мы газетаў не марнуем,
слова мондрае шануем,
а калі папера трэба
(для расады ці для хлеба,
на распалку ці падцерку),
то спатрэбім і паперку.
Ды ідэі застаюцца,
ў памяці народнай б'юцца.
Дык ты, сябра, сам кумекай:
Што друкована — навекі!
Не рабі ты з сябе смеху,
бо нам гэта не пацеха.
Адрасат табе вядомы,
дык пішы яму дадому!

**Вандал АРЛЯНСКІ**

## Крыжаванка

| | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 А | ■ | 2 | ■ | 3 А | ■ | 4 І | Р | 5 В | Е | 6 Т | А |
| 7 Н | Е | Д | Д | Х | С | П | ■ | А | ■ | А | ■ |
| К | ■ | | ■ | В | ■ | 8 Ф | У | Л | Я | Р | Ц |
| 9 А | К | У | Л | Я | Р | Ы | ■ | У | ■ | А | ■ |
| Р | ■ | | ■ | Р | ■ | 10 Т | 11 У | Н | 12 Д | Р | 13 А |
| 14 А | 15 П | А | 16 Т | А | 17 З | ■ | Б | ■ | | ■ | |
| ■ | А | ■ | У | ■ | 18 Я | С | С | І | І | | |
| 19 Д | З | І | К | У | Н | ■ | Д | ■ | | ■ | |
| ■ | У | ■ | А | ■ | 20 Ч | А | К | А | Н | Н | Е |
| 21 Ц | Т | А | Н | Т | А | ■ | Л | ■ | | ■ | Й |

**Гарызантальна:** 4. адвольнае вывяржэнне змесціва страўніка цераз рот, 7. адсутнасць неабходнай колькасці, 8. матрос, які кіруе рулём, 9. аптычная прылада, якую носіцца на носе, 10. зона арктычнай расліннасці, 14. любіцель, 18. індывідуум, 19. нецывілізаваны чалавек, 20. спадзяванне, 21. перакладзіна футбольных варот.

**Вертыкальна:** 1. сталіца Турцыі, 2. кароткі перапынак для адпачынку, 3. прадмет прынесены ў дар бажаству, 4. баявое атрутнае рэчыва скурна-нарыўнага дзеяння, 5. вялікі камень, 6. прадукт працы для продажу, 11. упрыгожванне, 12. левы прыток Дзвіны, 13. пункт арбіты найбольш аддалены ад Зямлі, 15. астаткі ад нафты пасля адгонкі з яе бензіну, 16. птушка з вялікай дзюбай, 17. амерыканскае зямельнае уладанне.

**(Ш)**

Рашэнне крыжаванкі складуць літары з пазначаных курсівам палёў. Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 24 нумара**

**Гарызантальна:** праца, Далгарукі, Сфакс, аспід, юка, „Трабант", карчага, аят, парта, дыета, аўтарытэт, аміяк.

**Вертыкальна:** чаранок, пульс, акула, дваяборка, імпічмент, струп, догма, Юта, акт, Яворнік, астма, дотык.

Рашэнне: **Ефрасіння Полацкая**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Аляксандру Дабчынскаму** і **Лукашу Пацэвічу** з Беластока.

## Пра любоў

Маша і Саша вучыліся на адным факультэце Саранскага універсітэта (Мардовія) і пражывалі ў адным інтэрнаце, аднак у розных пакоях, але нягледзячы на гэта, сустракаліся яны з сабою круглы год. Прахадзіўшы столькі часу парачкай, надыходзіць пара на нейкія сур'ёзныя рашэнні і такія выспявалі ў галовах і Машы, і Сашы. Аднаго дня Саша заявіў Машы, што знімае сабе асобную кватэру ў горадзе.

— А я? — збянтэжылася яна, уяўляючы ўжо сябе з ім разам у смелай гарачай схватцы.

— А ты пачакай, — адрэзаў ён.

Падзейнічала гэта на Машу як халодны душ і яна рашыла, што не пусціць на вецер супольна праходжаны год. Пайшла ў пракуратуру і заявіла там, што Саша яе згвалтаваў. Сашу пасадзілі, следавацелі няспешна — *тише едешь, дальше будешь* — разбіраліся ў справе, а Машы за той час стала шкада Сашу і яна паведаміла яму, што зніме абвінавачанне калі ён заплаціць ёй сто долараў. У глыбінцы гэта сур'ёзная сума і сям'я Сашы стала памаленьку збіраць тыя грошы. Каб падбадзёрыць сямейку Маша дадала да жадаемай сумы працэнт ад адтэрміноўкі і ў выніку праз нейкі час атрымала пяцьсот долараў. Сашу выпусцілі а неўзабаве і следавацелі вынеслі заключэнне, што ніякага згвалтавання не было. Цяпер Саша абвінаваціў Машу ў вымаганні і зажадаў звароту захопленых ёю грошай. А яна ўжо іх прапусціла...

Цяпер пасадзілі Машу, але толькі на тры дні. І вярнулася яна туды, куды некалькі дзён раней вярнуўся Саша — на той самы факультэт. Спярша адварочвалі ад сябе галовы, пасля, як гэта па знаёмству бывае, касавурыліся... Але ж — *любовь не картошка, не выбросишь за окошко*. І зноў закіпелі старыя страсці. І ўсёй гісторыі — *happy end*.

Гэтак у Расіі. У Вялікабрытаніі, хаця брытанцы маюць большыя магчымасці забыць сваю першую любоў, таксама здараюцца вяртанні да сябе першалюбімцаў. Вось нядаўна Джэнін Ньюмен і Давід Уіліс другі раз прысягалі перад алтаром, што дасконна не пакінуць сябе. Дзевятнаццаць гадоў раней зрабілі яны тое ж самае, аднак тады жаніх быў нявестай і наадварот; за той перыяд абое памянялі пол, аднак узаемная цяга асталася.

У Вялікабрытаніі здарыўся і другі выпадак нержавейнасці любові. Адна ўдава ўвекавечыла памяць свайго любімага мужа. Яна аддала яго прах студэнту жывапісу, а той вымяшаў яго з алейнымі фарбамі і намаляваў імі карціны з сямейнага жыцця сваёй заказчыцы. Гэтая ідэя спадабалася і самому мастаку і ён ужо выказаў жаданне, каб і яго ўвекавечыць такімі ж малюнкамі

А адзін 79-гадовы немец з Дортмунда прыдумаў дадаць музычны чып (мікраэлектронную схему) да засцерагальнага сродка, які апранаюць мужчыны. Той чып выконвае нейкую эратагенна гарачую мелодыю, напр. „Покохалам пенкнэго бялоруса", якая ў задуме дызайнера мае давесці не толькі да расплаўлення партнёркі, але мабыць нават, дзякуючы адпаведнаму рытму, і да ўзаемнага рэзанансу.

Амерыканскія вучоныя выкрылі хімічныя злучэнні, якіх недахоп выклікае спад разумовай актыўнасці. Хопіць вось паесці такіх злучэнняў у пілюлях і нават найгоршы неўдалота можа стаць геніем. Цяпер трэба чакаць, што амерыканскія вучоныя выкрыюць такія хімічныя злучэнні, якія, у адрозненне ад віагры, спрычыняцца не да ўзбуйнення адно юрлівасці, але і да выбуху сямейнасці. І калі гэтыя ўзбуджальнікі новай любоўнай цягі трапяць у меню нашых тут гарадскіх адзінокіх бульбашак, тады яны, так як раней у горад, кінуцца расплаўленым кулём у вёску да апатычна пакінутых старых адзінокіх бульбашоў без аглядкі на засцерагальнікі з рытмагенным чыпам. І прыйдзецца мабыць пакарыстацца мадыфікаваным старым лозунгам: „Дзве тысячы школ на двухтысячагоддзе". Стары лозунг не ржавее.

**Адам Маньяк**

## Кароткі курс параноі

**Цыклафрэнія**

Цыклафрэнія (маніякальна-дэпрэсіўны псіхоз) сярод высокаарганізаваных млекакормячых — пашыраная хвароба. Асабліва ўпадабала яна творцаў. Як даказвае навука, мастацкі атрад прыматаў ад 10 да 30 разоў часцей, чым іншыя гомасапуны, з'яўляецца яе носьбітам. А сярод абаронцаў рэй водзяць акцёры (17 працэнтаў) і паэты (13 працэнтаў).

Цыклафрэнікі бавяць час між узлётамі і ўпадкамі. У залежнасці ад „фазы", бурляць кіпучай энергіяй, або патанаюць у безнадзейнай роспачы. Між крайнасцямі захоўваюць зусім нармальна. У стане ўзлёту мастак, перапоўнены бязмежнай верай ва ўласныя сілы, ломіць бар'еры мастацтва і прарываецца ў невядомую прастору. І ў мазгах творцы ўзнікаюць нечаканыя асацыяцыі — звычайнае пераўтвараецца ў нязвыклае. Скажаце: і добра, гэта і з'яўляецца эсэнцыяй мастацтва.

Добра, калі мастак застаецца мастаком. А калі ён стане прэзідэнтам, як акцёр Рэйган? Тады мірнае зорнае неба можа пераўтварыцца ў зорную вайну. Вось дзе наша самая вялікая немач: палітыкі не нараджаюцца палітыкамі, яны імі становяцца. Сёння ён асенізатар, а заўтра — фюрэр, як жывапісец Гітлер ці паэт Пол Пот. І замест прыбіраць гарадскі клазет, пачне чысціць краіну, а то і свет. Між „фазамі" ён нармальны. Часам нават усміхаецца, дзіцця паглядзіць па галоўцы. І мы не звяртаем увагі на ягоныя „фазы". — Ат, пройдзе! — махаем рукою. Не, „само" не пройдзе. Цыклафрэнія патрабуюць стацыянарнага лячэння. Так кажа медыцына. Гарантыі на аздараўленне аднак не дае. Уся надзея ў кучаравай „Дольцы".

**Сідар Макацёр**

PS. З усіх цяжкасцей найцяжэй навучыць чалавека думаць, — сказаў шымпанзэ, цікуючы за паводзінамі пітэкантрапа, які дабіраўся да малпінай самкі.

***Факс сябравіцкага паэта Галавасюка***

***Драма***

Апакаліптычная
пачалася драма,
як з ліянаў
голага
спусцілі Адама.
Падкалодны злыдзень
да сексу прымусіў?
Так добра жылося,
як насіў нас бусел.
Запусціў у канвеер
ты дурную сілу,
ад яе і род наш
цягне ў магілу.
У „Дольцы" паратунак,
у навуковы шэраг!
Ганьба! — чарнарыжцы
асвяцілі чэляс.
Апакаліптычная
пачалася драма.
Дарма з дрэва, Чарлі,
сцягнуў ты Адама.